# ЗЬМЕСТ.

1. „Рэжым эканоміі“ ў вёсцы (**Куранкоў**) 2. Да асеньняй пасеўнай кампаніі (**М. Еўдакімаў**) 3. Нашы сродкі ўгнаеньня пад азімыя (**П. Трус**) 4. Пшаніца—зімка расьце добра (**З. Бульбянік**) 5. Зьністажайце сарнякі на полі—будзе большы ўраджай (**Е. Вэйс**) 6. Як і калі араць на зіму (**У. Карнейчык**) 7. Час севу траў пры безпакроўным асеньнім залужэньні балот (**А. Шохар**) 8. Як захаваць на зіму лубін (**З. Бульбянік**) 9. Як здабываць торф зімою (**Запольскі**) 10. Праца сялян—дасьледчыкаў увосень 11. Лёндаўгунец (**Я Мароз**) 12. Выка ў папары ня зьніжае ўраджаю жыта (**Сел. А. Зорскі**) 13. Як я навучыўся сеяць караньплоды (**Сел. Судакоў**) 14. Што далі селяніну купіны (**Сел. Г. Шасьцітка**) 15. Правільна закладайце маладыя сады. (**М. Бурштэйн**) 16. Як пасадзіць малады сад (**Ф. Старавойтава**) 17. Ліст з Мазыршчыны (**А. Сіцько**) 18. Трэба самому вырашчваць дрэвы для саду (**Сел. С. Сялюкін**) 19. Якую маюць скаціну сяляне в. Тушкова Аршанскай акр. і як яе дагл. (**Пратасэвіч**) 20. Як выгадаваць добрую карову (**А. Пашынін**) 21. Сілос (**Т. Апет**) 22. Вэтэрынарна-санітарныя папячыцельствы і іх праца ў вёсцы **Іоффе**) 23. Да выданьня водна-мэліярацыйнага кодэксу (**Я. Вішнеўскі**) 24. Разьдзел гаспадарак павінен разьбірацца ў зям. камісіях (**Сел. С. Сялюкін**) 25. Разьдзел гаспадарак павінен разьбірацца ў зям. камісіях (**В. Паўлоўскі**) 26. Разьдзел гаспадарак павінен разьбірацца ў зям. камісіях (**Я. Савіцкі**) 27. Пытаньні і адказы па зямельных справах 28. Двухтыднёвыя мэліярацыйныя курсы ў Бабруйшчыне (**Сел. М. Тарасенка**) 29. Дзедаўскае мэліярацыйнае таварыства (**Сел. С. Сялюкін**) 30. Дасягненьні ў працы Дзераўцоўска-Паплаўскага мэліярац. т-ва (**С. Комлік**) 31. Патрэбна ўвязка плянаў працы па аграпрапагандзе (**П. Гавака**) 32. Падсобныя лясныя промыслы (**П. Ліпкін**) 33. Як пачаў гаспадарыць селянін Янка Судак (**Я. Судак**) 34. Гаспадарка селяніна Яна Рэйзьнека (**С. Сялюкін**) 35. Гаспадарка селяніна Паўлы Ажгірэя (**Сел. А. Карнейчык**).

---

# Парады агранома на жнівень-верасень мес.

*Ачыстка насеньня жыта к пасеву* робіцца дзеля таго, каб разам з жытам не высяваць насеньня сарнякоў. Пасеў неачышчаным насеньнем можа зьнізіць ураджай на 15-20 проц. Лепшымі машынамі для ачысткі зьяўляюцца сартоўка і трыер.

*Насеньне пшаніцы трэба пратручваць* сінім каменем або формалінам, каб на будучы год у каласох замест зярна не зьяўлялася сажа (галаўня). Сіні камень і формалін можна дастаць у агранома або на с-г. складзе.

*Пацяпляйце хлявы.* К зіме кожны гаспадар павінен агледзіць свой хлеў, каб ён быў цёплы, сьветлы і чысты. Усе шчыліны трэба пазатыкаць мохам або пакульлем, палажыць столь, абшыць дзьверы і зрабіць 2-3 шкляныя акны.

*Аглядзець пограб ці склеп,* дзе будуць перахоўвацца караньплоды, бульба і розная гародніна.

*Пачаць выкарм сьвіней.*

*Праверка запасаў мёду ў пчол.* К зіме кожная сям'я пчол павінна мець каля 1 п. мёду. Калі гэтай колькасьці мёду няма, дык трэба зараз-жа даць у падкормку цукар (2 часткі цукру на 1 частку вады).

*Падгатаваньне гнязда пчол для зімоўкі.* Вынуць лішнія рамкі, а пакінуць 7—8 рамак для гнязда пчол зімою.

*Ахоўваньне пчол ад нападу пчол-зладзеяк.* Праводзячы ўсе працы каля пчол, трэба спаўнянь іх вельмі акуратна—не разьліваць і не пакідаць мёду, ня вымазвацца ў мёд самому пчаляру і г. д., каб не заклікаць на пасеку чужых пчол і ня спрыяць іх нападу на свае пчолы.

*Падумаць аб тым, дзе будуць зімаваць пчолы.* Калі пчолы будуць зімаваць у памяшканьні, дык падрыхтаваць амшанік, а калі на пасецы, то агледзіць вульлі.

---

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня Жнівень 1926 г № 8



## Рэжым экономіі ў вёсцы.

Цяпер шмат гавораць і пішуць пра рэжым экономіі. Што-ж гэта такое, запытаюць сяляне? Адказ можна найці. Восем год таму назад тав. Ленін пісаў (брошура „Чарговыя задачы Савецкай улады“): „*Вядзі акуратна і сумленна падлік грошай, гаспадаруй экономна, ня лодырнічай, ня крадзь, захоўвай строгую дысцыпліну ў працы*“. Гэта казаў Ленін у 1918 годзе, а амаль перад сьмерцю ён казаў: „У пролетарска-сялянскай дзяржаве шмат яшчэ можна экономіць і трэба экономіць“.

Цяпер-жа ўсе добра зразумелі, наколькі неабходна экономія для будаўніцтва новага жыцьця, новага ладу СССР.

Шырокае разьвіцьцё прамысловасьці, палепшаньне становішча рабочых і сялян бяз экономіі не магчыма. Тав. Ленін добра ведаў гэта і зьвяртаў увагу ўсіх на неабходнасьць экономіі з першых год рэволюцыі.

З сакавіка месяца г. г. у нас распачата кампанія за рэжым экономіі, а далей быў выданы і спэцыяльны закон аб рэжыму экономіі. Можна падумаць, што рэжым экономіі неабходны толькі гораду, але гэта ня так. Вёсцы таксама патрэбна экономія, як і гораду.

Возьмем некалькі прыкладаў; скажам, сельсавет у свой час не зрабіў рамонту маста. У час пажару прышлося праз гэты мост ехаць пажарнікам і замест таго, каб гасіць пажар, яны апынуліся пад мостам і „чырвоны певень“ зьлізаў вёску. Вось вам безгаспадарчасьць, якая супярэчыць рэжыму экономіі.

А колькі прыкладаў безгаспадарчасьці можна адшукаць у сельскай гаспадарцы? Возьмем яшчэ прыклад. Сабраліся сяляне і ўтварылі таварыства па барацьбе з сарнінамі. Абяцаліся выконваць усе парады агронома. Усе выкасілі мяжнікі і зьністожылі сарнякі, але знашоўся адзін селянін, які адмовіўся ад гэтага. І што-ж вышла? На яго вучастку параслі сарнякі і далі шмат сьпелага насеньня. Гэта насеньне птушкі і вецер разьнесьлі па ўсіх вучастках сялян і праца ўсіх прапала дарэмна. Як назваць такі ўчынак, калі не безгаспадарчасьцю.

Тое самае і са шкоднікамі с.-г. расьлін. Скажам, сяляне вынесьлі пастанову аб агульнай барацьбе са шкоднікамі расьлін: запрасілі спэцыялістага і закупілі матар'ялу для барацьбы. Усе зрабілі, як казаў спэцыялісты, а адзін селянін адмовіўся прымаць удзел у гэтым. Далейжа з яго палоскі шкоднікі перайшлі на палосы другіх сялян і зноў уся праца прапала дарэмна.

*А ад чаго ў нас гараць лясы*—гэта дзяржаўная маемасьць? Улетку ня толькі кураць у лесе, але нават і разводзяць кастры і незагасіўшы выходзяць з лесу. І гараць лясы, гарыць торф! А вядома, што самы лепшы і даступны спосаб падняць прыбытковасьць сялянскай гаспа-

даркі праз торф. Далей, у нас шмат яшчэ ёсьць такіх паляўнічых, якія б'юць дзічыну ва ўсякую пару. Каб-жа дапамагаць размножаньню дзічыны, трэба спаўняць дзяржаўныя і мясцовыя законы паляваньня.

А як маладыя хлапцы *адносяцца да чужых садоў?* Яны лічаць за мастацкі ўчынак залезьці ў чужы сад і абкалаціць там яблыкі. Часта-ж яны ня толькі абкалоцяць яблыкі, але колькі наломяць і галінак. А на другі год на яблынях ня будзе яблык. Гэта ўжо ня толькі безгаспадарчасьць, але і сапраўднае хуліганства, з якім трэба змагацца.

Камсамол і ўся вясковая грамадзкасьць павінны рашуча і неадкладна павесьці барацьбу са ўсімі выпадкамі безгаспадарчасьці, якая супярэчыць рэжыму экономіі.

**А. Куранкоў.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Галоўныя задачы асеньняй пасеўнай кампаніі 1926 г. *)

Па даных вясеньняга вучоту ЦСУ на 1926 г. было пасеяна азіміны на плошчы 1.028 787 дзес. Раўняючы пасеўныя плошчы за апошнія 3 гады з данымі 1916 г. можна бачыць, што плошча пад азімымі павялічваецца, а проц. ад агульнай пасеўнай плошчы падае. У лічбах гэта будзе так:

| Гады | Плошча азімых | Процант к 1916 г. | Процант да ўсіх засеваў |
|---|---|---|---|
| 1916 | 882.767 | 100 | — |
| 1924 | 989.978 | 112,2 | 43,2 |
| 1925 | 1018.530 | 115,3 | 40,8 |
| 1926 | 1.028.787 | 116,5 | 40 |

Можна думаць, што засеў азіміны на 1927 г. будзе на плошчы 1.037500 (павялічэньне на 8.800 дзес.), што складзе к 1916 г. 117,5 проц., або 39,4 проц. да ўсіх засеваў.

*Арганізацыя засеву азіміны.* Ураджай азімага кліна ў бягучым годзе на Беларусі будзе паміж ніжэй-сярэднім (для паўночных акруг) і сярэднім (для рэшты акруг). Валавы збор азімых г. г. забясьпечвае насенную патрэбу азімага кліна на 1927 г. Для паасобных раёнаў Беларусі, якія пастрадалі ад градабіцьця, на выдачу крэдытаў заняпалым гаспадаркам на куплю насеньня азімых, Белсельбанкам выдзелена 50.000 руб. і пераведзена акругам—Магілеўскай 20.000 руб., Мазырскай—10.000 руб., Бабруйскай—10.000 руб., Барысаўскай—5.000 руб. і ў рэзэрве пакінута 5.000 руб.

Сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі мяркуюць выдаць насеньне бядняцкім сялянскім гаспадаркам.

*Агрыкультурныя мерапрыемствы кампаніі.* Галоўнай задачай у правядзеньні наступнай асеньняй кампаніі для зямельных органаў павінна быць пашырэньне мерапрыемстваў гаспадарчага і агрыкультурнага парадку з мэтаю павышэньня ўраджайнасьці азімых расьлін, а таксама павялічэньне даходнасьці сялянскіх гаспадарак. Такімі мерапрыемствамі будуць *ачыстка, пратручваньне азімага насеньня.*

Усяго думаюць ачысьціць 600.000 пуд. азімага жыта і пшаніцы, лічачы, што апрача машын агропунктаў (405 арф і трыераў) будуць скарыстаны для ачысткі зярна машыны саўхозаў (165), с-г. кооперацыі (97) і насельніцтва (184).

*) Калі гэты артыкул быў у наборы, аўтар зьмясьціў яго другі раз у газэце „Сав. Бел.", № 185.

Пры гэтым будзе ачышчана 5,8% пасеўнага матар'ялу азіміны, што дасьць 40 проц. ачышчанага зярна веснавой пасеўкампаніі.

Ацрача ачысткі зярна намечана пратручваньне насеньня азімай пшаніцы ад галаўні перад пасевам; усяго будзе пратручана 40.000 пуд.

Ачыстка зярна і пратручваньне будзе безплатна.

*Забясьпечаньне палепшаным пасеўным матар'ялам.* Думаюць скарыстаць сартовы і мясцовы палепшаны пасеўны матар'ял саўхозаў Белсельтрэста. Тут можна будзе і купляць, і абменьваць сялянскае зярно на сартовае. Усяго для абмену пойдзе насеньня:

| | | |
|---|---|---|
| жыта Пробштэйнскага | 22.100 | пуд. |
| „ Пяткускага | 27.600 | „ |
| „ Іванаўскага | 15.300 | „ |
| „ Шацкага | 47.000 | „ |
| „ Трасьніковага | 5.500 | „ |
| пшаніцы Высокалітоўскай | 3.500 | „ |
| Усяго | 121.000 | „ |

Калі ўся гэта колькасьць будзе скарыстана, то можна будзе засеяць сартовым насеньнем плошчу прыкладна ў 12.000 дзес. Умовы абмену для сялянства ільготныя (пуд за пуд). Калі сялянскае зярно вельмі засьмечана, то ў абмен яно будзе прымацца пасьля ачысткі яго тут-жа ў саўхозе.

*Забясьпечаньне насельніцтва мінэральнымі ўгнаеньнямі.* Попыт насельніцтва на мінэральныя ўгнаеньні, пачынаючы з 1923 г. з кожным годам павялічваецца. У 1925 г., ня гледзячы на тое, што было разьмеркавана 200.000 пуд. усё-ж попыт застаўся нездаволеным. У веснавую пасеўную кампанію г. г. разьмеркавана амаль 160.000 п. Вялікі попыт на мінэральныя ўгнаеньні бывае звычайна пад азімыя пасевы і галоўным чынам на тамасаўку, супэрфосфат, фосфарытную і касьцяную муку. У гэтым годзе Цэнтраземскладам і Белсельсаюзам зроблены запас і завезена ў акругі такая колькасьць угнаеньня:

| | | |
|---|---|---|
| тамасаўкі | 21.280 | пуд. |
| супэрфосфату | 258.500 | „ |
| фосф. мукі | 11.240 | „ |
| касьц. мукі | 81.900 | „ |
| Усяго | 373.000 | „ |

Пры продажы насельніцтву мінэральнага ўгнаеньня будзе давацца кароткатэрміновы крэдыт да аднаго году.

*Паказальныя мерапрыемствы.* Паказальныя мерапрыемствы будуць праводзіцца закладкай паказальных вучасткаў. Усяго будзе заложана ня менш 600 паказальных вучасткаў з азімымі расьлінамі на розныя тэмы палепшаньня тэхнікі паляводзтва.

Перш усяго будуць праводзіцца радковыя пасевы. Маючы на пракатных пунктах Земорганаў 100 радковых сеялак пры нагрузцы кожнай у сярэднім на 20 дзес., думаюць засеяць плошчу ня менш 2.000 дзес.

Трэба адзначыць, што посьпех пасеўнай кампаніі будзе залежыць у большай меры ад выяўленьня ініцыятывы і самадзейнасьці самога насельніцтва. Затым, высьвятленьне і апрацоўка практычных пытаньняў правядзеньня кампаніі на мясцох павінна стаць на першым месцы на сэсіях сел.-гасп. саветаў, с-г. гурткоў, камітэтаў узаемадапамогі і іншых

грамадзкіх вясковых організацый. З боку Земорганаў павінны быць усебакова высьветлены задачы пасеўкампаніі на старонках мясцовага пэрыодычнага друку ў акругах. Таксама павінны быць дакладна паказаны сялянству месцы і ўмовы абмену насеньня, умовы продажы мінэральнага ўгнаеньня і г. д.

М. Еўдакімаў.

---

# Нашы сродкі ўгнаеньня пад жыта.

**Мінэральныя ўгнаеньні каштуюць яшчэ дорага. Шмат сялян ахвотна карыстаюцца мясцовымі ўгнаеньнямі, як торф, лубін, фасфарыт і інш.**

Жыта—галоўная расьліна ў палявой гаспадарцы Беларусі. Да гэтага часу там, дзе яшчэ пануе злачынная трохпалёўка, пад жыта займаюць трацяк поля. Шмат хто ўжо перашоў да новых спосабаў гаспадараваньня, перашоў на шматпольле, сее жыта менш трэцяй часткі, а агульны збор зярна мае ня меншы, а часамі і большы. Тут мае значэньне лепшы выраб поля і лепшае ўгнаеньне. Вядома, што калі гаспадар менш поля займае пад жыта, то больш—пад кармовыя расьліны, як канюшына, выка і інш. А часта гаспадары нават сеюць буракі, рэпу і інш. караньплоды. Гэтыя кармовыя расьліны даюць магчымасьць трымаць больш скаціны.

Даўно ўжо навукаю дойдзена, што расьлінам патрэбны пажыўныя матэрыі. Ужываньне гною пад расьліны робіцца з даўных часоў і толькі шмат пазьней даведаліся, што побач з гноем можна ўжываць розныя мінэральныя ўгнаеньні, якія маюць такія самыя солі, як і гной, але толькі ня поўнасьцю. З гэтай прычыны іх бяруць у мешаніне па два ці тры разам. Да такіх мінэральных угнаеньняў належаць супэрфосфат, тамасаўка, салетра, калійная соль і інш. Але справа ў тым, што гэтыя ўгнаеньні дорага каштуюць, ды іх і мала здабываецца ў нашым Саюзе. Пры нявысокай цане на збожжа іх не заўсёды можна купляць. Замяніць мінэральныя ўгнаеньні і папоўніць нястачу гною гаспадару памагаюць сырыя матар'ялы, *як попел, фосфарыт, торф, вапна,* а таксама *розныя адкіды сельскай гаспадаркі*—памыі, сьмецьце і інш.

Апрача гэтых сырых матар'ялаў трэба назваць яшчэ *лубін на зялёнае ўгнаеньне,* які мае для нас вялікае значэньне. Цікава тое, што лубін можа добра браць фосфар і пераводзіць яго ў сваю масу, адкуль ён можа быць скарыстаны другімі расьлінамі, як напрыклад жыта. Трэба лубін сеяць так, каб ён пачаў красаваць за тыдні тры да пасеву жыта. Потым яго заворваюць. Заворваюць лубін большаю часткаю ня косячы, прывязаўшы к дышлю плуга якую-небудзь вагу, каб яна прыціскала лубін да зямлі. Так ён добра заворваецца. Заворваецца лубін на суглінках тыдняў за 3-4 да пасеву жыта, а на супясках і пясках тыдні за 2-3. Перад севам жыта поле больш не арэцца, а ў адзін-два сьляды яго скародзяць і сеюць насеньне жыта.

З лубінам уносіцца ў глебу каля 3000 пуд. органічнае масы на дзесяціну. Гэта больш, як мы ўносім з гноем.

Па лубіну жыта расьце таксама добра, як і па гною. Апрача лубіну на зялёнае ўгнаеньне можна скарыстоўваць сэрадэлю, грэчку і інш. расьліны.

*Розныя адкіды* сельскай гаспадаркі—сьмецьце, пыл, шляхавая гразь, памыі, сажа, попел, а таксама лісьце, мох і інш. могуць быць таксама выкарыстаны на ўгнаеньне. Трэба толькі ўсё гэта ўмець падрыхтаваць. Гэты матар'ял перамешваюць з зямлёю, торфам, ці балотнаю глебаю і перасыпаюць вапнаю, каб мець добры *кампост*.

Вядома, кампосныя кучы павінны быць закладзены за год ці паўтара раней дзе-небудзь на дварэ. Усе названыя матар'ялы перамешваюцца, складаюцца ў кучу каля 3 арш. шырынёю і $1^1/_2$ арш. вышынёю (даўжыня кучы залежыць ад колькасьці матар'ялу). Патрэбна кучу некалькі разоў перакідаць лапатаю і паліваць гнаёваю жыжкаю, каб матар'ялы лепш перагнівалі. Цераз $^1/_2$-1 год усё гэта перагніе і стане добрым угнаеньнем. Кампосту кладуць на дзесяціну 1200—1800 пуд. Вывозіцца кампост на поле перад мешаньню. Солі яго трымаюцца на полі каля 3-х год.

Асаблівае значэньне мае тарфяны кампост. Торф перамешваюць з вапнаю, попелам і фосфарытам і таксама падрыхтоўваюць, як звычайны кампост з гаспадарчых адкідаў. Некаторыя сяляне ўжываюць сыры торф на ўгнаеньне пад жыта, але гэта часта бывае шкодным. У такім выпадку лепш торф праводзіць праз абору, як подсьціл.

*Попел зьяўляецца галоўным чынам калійным угнаеньнем* і кладзецца пад расьліны, якія зьбядняюць глебу на калі, як бульба, буракі, канюшына, лён; але можна сыпаць попел і пад жыта. На дзесяціну попелу кладзецца каля 40 пуд. Попел можаісьці і на перасыпку кампосту.

Як фосфарнае ўгнаеньне, можа ўжывацца ў нас *перамолаты фосфарыт*. Фосфар фосфарыту звычайна бярэцца расьлінай дрэнна, але на кіслых глебах, якіх на Беларусі большасьць, ён скарыстоўваецца расьлінамі добра. Фосфарытавай мукі кладуць на дзесяціну 30—35 пуд., а то і больш. Фосфарыт сеюць за 1-$1^1/_2$ мес. да пасеву жыта, а лепш сеяць яго з вясны.

Вопыты з markdownрознымі мясцовымі ўгнаеньнямі ставіліся дасьледчымі с.-г. станцыямі і далі добрыя вынікі.

Гаспадар на ўсё гэта павінен зьвярнуць увагу перад севам жыта, каб на наступны год мець большы ўраджай. Толькі шляхам паступовага ўгнаеньня глебы, поруч з новымі мэтадамі гаспадараваньня мы дасягнем такіх высокіх ураджаяў, якія атрымоўваюць у Нямеччыне, Даніі і інш. краінах, бо нашы ўраджаі даваеннага часу ўжо ня могуць быць прыкладам.

П. Т.

---

## Пшаніца-зімка кусьціцца добра.

*На пагнойным полі пшаніца-зімка кусьціцца і дае добры ўраджай.*

Азімая пшаніца сёлета расьце так, што толькі на дзіва. Вясною вышаўшы з-пад сьнегу яна месцамі павымакала, але ўсе гэтыя вымакшыя голыя лапіны зноў пакрыліся чаротлівымі таўстымі калівамі пшаніцы. Цікава сказаць, як-жа маглі так пакрыцца тыя голыя мясьціны пшаніцай?

Пшаніца, як шмат каму з гаспадароў вядома, любіць пагнойнае і добра выробленае поле. І вось, калі сёлета на пшаніцу ўнізу каля самай зямлі паглядзець, дык там убачыш цікавую рэч. З аднаго каліва вырасла шмат другіх каліў, нават ёсьць па 30-35.

Выгляд пшаніцы, можна сказаць, добры. Яна сама густая, і мае цёмнасіня-зялёны колер. Колас таксама буйны. Мне ўспамінаюцца тыя мінулыя 16-18 гады, калі пшаніца ў сялян рэдка ў каго радзіла. Ды і то, як яна радзіла? Калі было за што зачапіць серп, дык ужо сяляне і казалі: „Пшаніца ўрадзіла!“

Цяпер такую пшаніцу, што казалі калісь „урадзіла“, можна назваць дрэннай.

Чаму-ж стала радзіць цяпер у нас пшаніца? Раней у нас ня было лўбіну, сэрадэлі, выкі, ды наогул рэдка ў каго была канюшына і выка. Папар наш гуляў бяз толку незасеяным і з травамі. Глеба была пустая. Жыта расло папалам з горам. А што пшаніца, дык шмат хто ня зьбіраў нават і насеньня. Ня раз у сялян былі праклёны,—а не радзі ты ўжо ніколі, як ты ня родзіш. Але дзякуючы розным мерапрыемствам Савецкай улады цяпер наша поле лепш угноена, лепш вырабляецца і ня толькі пшаніца, але і ўсё стала лепш радзіць.

Цяпер пашыранае ў нас угнаеньне луб:н і сэрадэля. На гэтых угнаеньнях сеем жыта, а пад пшаніцу возім на папар густа гной.

**З. Бульбянік.**

(Вёс. Роўнапольле, Сьмілавіцкі раён).

---

# Зьністажайце сарнякі на полі, будзе большы ўраджай.

Кожны гаспадар імкнецца падняць ураджайнасьць сваіх пасеваў, дзеля гэтага ён стараецца лепш выраблядь поле і больш палажыць гною.

Уносячы ўгнаеньне гаспадар мяркуе зрабіць запас пажыўных матэрый для азначаных расьлін. Калі ў расьліны, скажам аўса, зьявяцца сарнякі, то зразумела, што яны адымаюць ад пасеянага насеньня частку пажыўных матэрый, сьвету і нават цяпла. Вядома, авёс будзе горш расьці і дасьць меншы ўраджай.

Насеньне сарнякоў можа расьці на горшай глебе чым насеньне культ. расьлін. Сарн. высмоктваюць з зямлі адны і тыя-ж матэры, што культурныя расьліны.

Насеньне сарнякоў часьцей бывае дробнае і лёгкае, а адна расьліна дае за лета тысячы зярнят, якія могуць прарастаць і расьці ў горшых умовах, чым культурныя расьліны.

За лета адна расьліна сьвірэпкі дае 80 тысяч штук зярнят, а ў адным фунце іх 40 тыс. штук. Адна расьліна асоту, напрыклад, дае 35500 штук зярнят. У адным фунце насеньня дзікага шчаўя 360 тыс. зярнят. Ёсьць насеньне шмат якіх сарнякоў, якое яшчэ лягчэй і драбнейшае, чым насеньне шчаўя. Мак-самасейка ў адным фунце мае 700 тыс. штук зярнят, а кожная расьліна за лета дае 19400 шт. зярнят. Усе гэтыя мільёны сарнякоў адымаюць пажыўныя матэрыі ад культурных расьлін і зацяняюць іх ад сонца.

Нагляданьні над сялянскімі гаспадаркамі кажуць аб вялікай засьмечанасьці пасеваў.

Так, у Ленінградзкай губ. перад вайной (1914 г.) ад засьмечанасьці пасеваў сялянскія гаспадаркі не давалі паловы ўраджаю. Замест

кожных 100 частак ураджаю мелі: жыта 49 частак, а 51 частка прапала ад засьмечанасьці; ячменю прапала 50 частак; аўса прапала 54 часткі.

Сяляне Екацерынаслаўскай губэрні недабіраюць кожны год $^1/_4$ свайго ўраджаю, таксама дзякуючы засьмечанасьці палёў.

У Валакаламскім павеце Маскоўскай губэрні сяляне высяваюць, у сярэднім, на дзесяціну 30 ф. насеньня сарнякоў.

Па даных Саратаўскай дасьледчай станцыі дробнае сартаванае зярно (буйное і сярэдняе з яго было выбрана) дало такі ўраджай, як і буйное несартаванае. Сартаванае сярэдняе зярно дало больш ураджай, чым несартаванае такой-жа сярэдняй вагі. Пробу рабілі 4 гады.

Гэта тлумачыцца тым, што калі высяваць зёрны прыблізна аднолькавай велічыні і вагі і прыкрываць іх роўнамерна, то расьліны з іх аднача́сна прарастаюць, аднолькава растуць і ў адзін час пасьпяваюць. Калі-ж зёрны не аднолькавыя, то больш буйнейшыя і мацнейшыя прарастуць хутчэй, лепш акрэпнуць і будуць заглушаць слабейшых, якія дадуць горшае зярно, а частка іх зусім згіне, што зьменшыць ураджай.

Загэтым памятайце, што на сартаваньне зярна трэба зьвярнуць ня меншую ўвагу чым на выраб поля, угнаеньне і выбар севазвароту.

Чыстае насеньне аднолькавай сярэдняй велічыні павялічыць ваш ураджай.

**Е. Вейс.**

---

# Час севу траў пры беспакроўным асеньнім залужэньні балот.

(Па матар'ялах Забалацкай балотнай дасьледчай гаспадаркі).

Пытаньням залужэньня балот прысьвечан шэраг досьледаў, аб выніках якіх і будзе ў свой час напісана.

У гэтым артыкуле, апрача чыста дасьледчых пытаньняў, прыводзіцца матар'ял, які атрыманы гэтым летам на палёх гаспадарчых пасеваў. Такім чынам, вынікі складаюць масавы матар'ял і маюць тым большае практычнае значэньне.

Увосень 1925 г. на балотнай гаспадарцы праводзілася залужэньне на палёх VIII, IX і X.

Поле VIII было засеяна 7 верасьня
„ IX „ „ 31 жніўня
„ X „ „ 9 жніўня

Угнойвалася поле ўсіх вучасткаў аднолькава (калійная соль і фасфарытная мука), а склад мешаніны траў быў розны.

Рознастайнасьць складу мешанін траў была ў тым, што мешаніна X поля мела чырвоную канюшыну, а поле VIII і IX былі заняты выключна лугавымі травамі.

З траў у мешаніну ўваходзілі: цімафейка (ў роўнай меры для ўсіх трох мешанін) *мурожніца і купкоўка* (на VIII полі больш мурожніцы, а на IX больш купкоўкі).

Выраб поля і пасеў для ўсіх вучасткаў быў аднолькавы. Засеяныя ў розны час вучасткі далі неаднача́сныя ўсходы: раней X, а пазьней VIII поле. К зіме вучасткі вельмі адрозьніваліся. Так, на X полі былі

роўныя зялёныя ўсходы, паміж якіх можна было адрозьніць канюшыну і лугавыя травы. Поле-ж IX і асабліва VIII далі няроўныя ўсходы. Вясною ўсе тры вучасткі з 1 да 15 красавіка былі заліты вадой, якая ў барознах і нізінах часткаю стаяла да красавіка.

У пачатку траўня рост траў на X полі быў 10—12 см., у той час як на VIII і IX полі—6-8 см.

Апрача таго, трава на X полі была роўная і густая, і складалася толькі з цімафейкі, бо насеньне іншых траў згінула. Поле-ж VIII і IX былі вельмі стракатыя, з голымі чорнымі лапінамі; прычым травастой зноў з аднэй цімафейкі.

Такім чынам, *пад уплывам доўгачаснага залівaньня канюшына, купкоўка і мурожніца зьніклі,* што трэба мець на ўвазе пры залужэньні балотных сенажацяй, калі на іх водны рэжым не ўрэгуляваны.

У працягу лета рост пасьля дадатковага ўнясеньня калійнае солі павысіўся і лапіны на VIII і IX палёх пачалі зарастаць.

У пачатку ліпня траву на гэтых палёх скасілі і атрымалі такі ўраджай:

Поле X дало на 1 дзес. . . . . . . 266 пуд.
„ IX „ „ „ . . . . . . . 243 „
„ VIII „ „ „ . . . . . . . 234 „

Адсюль хоць і відаць некаторая колькасная розьніца ва ўраджаі травы першага ўкосу, але яна невялікая. Галоўнае ня ў колькасьці, а ў якасьці травы (нізавыя балоты пры ўнясеньні калійнай солі самі даюць значную расьлінную масу). Ураджай сена X поля меў лугавых траў 90 проц. у той час, як IX і VIII 50—55 проц.

Вось на чым і адбіўся важны ўплыў асеньняга севу траў без прыкрываючых расьлін.

Гэты час і павінен мець на ўвазе кожны гаспадар, які цікавіцца пытаньнем залужэньня балот.

А. Шохар.

# Як і калі араць на зіму.

Калі аржоньне ўзараць у жніўні, то да восені поле папаруе.

Большасьць вясковых гаспадарак сеюць ярыну пасьля жыта, а поле аруць ці позна ўвосень, ці толькі вясною. Вядома, узараўшы позна ўвосень ржэўнік ня ўсьпее перапрэць, хаця вільгаці за зіму і сабярэцца шмат, а ўзараўшы толькі вясною, то і гэтага ня будзе.

Зусім другое, узараўшы рана, прыкладам у жніўні і на глыбіню 2—3½ вярш, калі толькі сажнуць і зьвязуць жыта. За восень ржэўнік добра перапрэе, сорныя расьліны таксама прападаюць, а зямля за зіму набярэцца шмат вільгаці.

Пры такім вырабу поле выходзіць усё роўна як бы папарнае і мае шмат пажыўных матэрыяў. Трэба толькі глядзець, каб поле не зарасло сорнымі расьлінамі; пры зьяўленьні іх поле трэба пабаранаваць хаця-б звычайнай бараной. Пазьней-жа пад восень, карысна поле ўзараць другі раз ужо на поўную глыбіню, і калі пад жыта ня быў палажаны гной, то яго цяпер трэба палажыць, у каго ён ёсьць.

Шмат гаспадароў ня маюць часу араць першы раз рана (у жніўні) і пакідаюць ворыва на восень, а ўвосень за халадамі ды марозамі зноў не ўзарэ, і гэта праца пераносіцца на вясну.

Ужо шмат год у нашай гаспадарцы ўжываецца раньняе ворыва на зяб, за што, магу сказаць, не астаёмся ў даўгу. Загэтым раю сялянам у гэтым годзе зарані ўзорваць на зяб.

Сел. Ул. Карнейчык.

# Як захаваць лубін зімою.

Лубін, гэта такая расьліна, якая нядаўна зьявілася ў сялян. Дзеля ўгнаеньня зямлі ён вельмі карысны і цяпер нідзе амаль ужо ня знойдзеш такога гаспадара, у якога-б ня было заведзена лубіну. Але сяляне яшчэ добра ня ведаюць, як захоўваць на зіму насеньне лубіну. Часта бывае, што гаспадар зложыць лубін на гумнішчы, пойдзе дождж, намочыць яго, струкі пачынаюць чарнець, гнісьці, а зярняты замест цёмна-шэрага колеру робяцца чырвона-зялёнымі і становяцца мяккімі. Вядома, што такое насеньне ня ўзойдзе, калі яго высеяць. Ад гэтага гаспадар нясе страту. Ён толькі дарэмна працаваў. Прыходзіцца купляць лубін дзе-небудзь на рынку, а свой выкідаць на сьметнік.

Гэта часта здараецца ў сялян ад таго, што яны ня ведаюць, як яго добра захаваць.

*Як-жа трэба захоўваць лубін?* Увосень лубін патрэбна барджэй змалаціць. Насеньне лубіну ня можна ссыпаць у мяшкі ці скрыні, бо паляжаўшы там, яно адсырэе і папрэе. Лепш за ўсё насыпаць яго на вялікія пасьцілкі нятоўстым слоем у такім месцы, дзе праходзіць ветрык, але каб ня капаў дождж, напрыклад, на гары хаты ці іншага будынку. Час ад часу яго трэба пераварачваць рукамі. А можна і так зрабіць: сухія снапы лубіну скласьці ў тарпу ў якім-небудзь памяшчэньні, куды ня капае дождж. Вясною снапы вымалаціць і затым сеяць. Так захаваны лубін добра ўсходзіць.

Сялянам трэба заўважыць, што лубін трэба вельмі добра захоўваць, бо зярно яго вельмі далікатнае. **З. Бульбянік.**

(Сьмілавіцкі раён, Меншчына).

# Як здабываць торф зімою.

**Летам трудна здабываць торф. У 1925 г. першы раз была зроблена проба капаць торф зімою. За 2-3 дні было здабыта 33 вазы торфу.**

Торф—наша багацьце. Культурныя народы называюць тарфяныя балоты залатым дном, а ў нас на Беларусі торфу многа, але мы скарыстоўваем тарфяныя балоты толькі для выпасу скаціны. Гэта дае вельмі мала карысьці, бо зьніжаецца ўдой малака, ды і гаспадар траціць летні гной. Культурныя людзі з балота маюць подсьціл скаціне на ўвесь год, а мы часта за нястачай подсьцілу трымаем скаціну ў гразі, што дрэнна адбіваецца на здароўі жывёлы. Запасьці подсьцілу на ўвесь год нашаму гаспадару цяжка, папершае таму, што летам у яго няма часу здабываць торф, а падругое нашы балоты каля поля даюць добрыя ўкосы сена (дзякуючы палявым наносам) ды і ямы капаць тут нельга, бо прагон скаціны бывае каля поля; калі-ж капаць торф далей ад поля, то вывезьці яго будзе цяжка.

Тут пакажу, *як я здабываю торф зімою.* У 1925 г. з вясны я ўсё лета вырабляў кампост з торфу, але вывезьці яго ня мог, а паехаў за ім зімою. Мая кампосная куча так замерзла, што я з вялікім цяжарам набраў толькі адзін воз і далей вазіць яго кінуў. Тут я стаў прыдумываць, як накапаць сырога торфу. Рассунуў сьнег, пачаў прасякаць яму і ўбачыў, што толькі верхні слой мёрзлы. Далей прасек толькі адну канаўку да торфу, а дзёран адбіваецца вялікімі кавалкамі і вельмі лёгка, як лёд на рэчцы. І так за кароткі час я накапаў вазоў 20 торфу і вывез яго раней на поле, каб даць прамерзнуць, а потым зьвёз ужо да хаты. За зіму я навазіў 33 вазы торфу, якім вясною карыстаўся на подсьціл. Селянін **К. Запольскі.**

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Праца сялян дасьледчыкаў увосень.

**Галоўная праца сялян-дасьледчыкаў у другой палове лета і ўвосень —вучот ураджаю вопытаў, і закладка вопытаў пры пасеве азімых. Лепшыя вынікі трэба надрукаваць у часопісі ці газэце.**

З вясны бягучага году па просьбе некаторых чытачоў і дапішчыкаў „Плуг“ пачаў гуртаваць каля сябе сялян-дасьледчыкаў, якія ў сваёй працы на полі, гародзе і садзе вялі якія-небудзь спробы, ці досьледы.

Праца „Плуга“ ў гэтым кірунку пачалася з таго, што з № 3 (сакавік м-ц) быў адчынены аддзел *„Сялянскі досьлед“*. У гэтым аддзеле знаходзіў сабе месца ранейшы досьлед селяніна, які служыў прыкладам ці выклікаў крытыку. У той-жа час быў высунуты і прыкладны сьпіс тэм, або пытаньняў для сялянскіх досьледаў вясною і летам.

Гэта думка аб'яднаць ці дапамагчы аб'яднаньню сялян-дасьледчыкаў вельмі хутка зацікавіла шмат якіх сялян, якія, як выявілася далей, ужо даўно займаліся памаленьку дасьледчай працай і мелі вялікі ўплыў на бліжэйшых сялян свайго раёну. А шмат хто пачаў працаваць і ў пяршыню.

Зараз ужо рэдакцыя „Плуга“ налічвае да 15 гаспадароў-сялян, якія вядуць вельмі цікавую і нязвычайна цэнную дасьледчую працу*).

Шмат хто з гэтых сялян ужо друкаваў вынікі сваіх ранейшых вопытаў, а некаторыя пісалі пра вопыты гэтага году. Некаторыя дасьледчыкі прыслалі ў рэдакцыю програмы сваіх досьледаў, **) якія яны разгарнулі ў бягучым годзе.

Зараз сельска-гаспадарчы год падыходзіць к канцу. Трэба праводзіць вучот ураджаю. Тут у некаторых сялян-дасьледчыкаў напэўна паўстане пытаньне, як гэта зрабіць. А падлічыць кожны досьлед патрэбна, бо толькі і мае значэньне той досьлед, які даведзены да канца, г. зн. ураджай прыбраны, падлічаны на дзялянку і на дзесяціну, ацэнены затраты і прыбытак.

Пры вучоце лепш падлічыць ураджай усёй дзялянкі. Скажам, дзялянка была ў 30 кв. сажн. і дала зярна 32 кілгр., а дзесяціна 32 клг.×80=2560 клгр., або 160 пуд.

Апрача такога вучоту, ураджай дзялянкі падлічваюць і па пробнаму снапу. Так называюць той сноп, які атрымоўваюць адбіраючы з

---

*) Дадаю сьпіс гэтых сялян-дасьледчыкаў апрача Я. Мароза—С. Сялюкін, М. Тарасенка (Магілеўскі раён), Я. Карнейчык (Пуховічы), Г. Шасьціtка (Полацак), Т. Апет і Б. Шымковіч (Дуброўна), А. Сіцько (Капаткевічы). Я. Савіцкі (Калінішчына), Запольскі (Сьмілавічы), А. Чалоўскі (Калініншчына), П. Самцэвіч (Крупскі раён) Я. Судак (Карма) і інш.

**) С. Сялюкін (гл. „Плуг“ № 7), Запольскі, А. Карнейчык і інш.

усіх снапоў дзялянкі па адной жменьцы збожжа. Для гэтага ўсе снапы на дзялянцы пакідаюць нязьвязанымі пакуль ня возьмуць з іх адной жмені пробнага снапа. Гэты пробны сноп зважваюць сырым і таксама важаць усе сырыя снапы дзялянкі. (Усё гэта запісваецца). Далей пробны сноп кладуць у мяшок (каласамі ўніз) і высушаны малоцяць. Так, напрыклад, абмалот пробнага снапа, які сырым важыў 22 фун., даў 5,4 фун. зярна. Сыры-ж ураджай дзялянкі важыў 8 пуд. 6 фун. Цяпер, калі на 28 фун. сырога ўраджаю пры абмалоце прышлося 5,4 ф. зярна, то на 10 пуд. 8 ф. сырога ўраджаю дзялянкі прыдзецца 2 пуд.*) зярна, а дзесяціна дасьць 2 п.×80=160 пуд., бо дзялянка была ў 80 раз менш дзесяціны.

*Другое.* Зараз надыходзіць засеў азімых і сялянам-дасьледчыкам трэба падумаць аб новых досьледах. Для хутчэйшага вырашэньня гэтага пытаньня, тут прыводзіцца сьпіс тэм для вопытаў.

| *Тэма, або пытаньне* **) | *Схэма вопыта.* |
|---|---|
| 1. Радковы і раскідны (ручны) пасеў жыта. | 1. Пасеў радковы (7-8 п. на дзес.)<br>2. Пасеў радковы (10 п. на дзес.)<br>3. Кантроль. Пасеў ручны (10 п.) |
| 2. Пасеў жыта па чыстаму і занятаму папару. | 1. Па чыстаму папару (кантроль)<br>2. Па занятаму аўса-вычкай.<br>3. „ канюшынай.<br>4. „ бульбай. |
| 3. Пасеў жыта па занятаму папару, дзе быў гной паложаны пад расьліну занятага папару і непасрэдна пад жыта. | 1. Гной быў пад аўса-вычкай.<br>2. Гной палавіна пад аўса-вычкай, палавіна пад жытам.<br>3. Гной пад жыта.<br>4. Кантроль (бяз гною). |
| 4. Пасеў жыта пры ўгнаеньні кампостам з торфу і гноем. | 1. 2400 п. кампосту з торфу.<br>2. Гною 2400 п.<br>3. Гною 1200 п.<br>4. Кантроль (без угнаеньня). |
| 5. Пасеў жыта пры ўгнаеньні поля фосфарытнай мукой, тамасаўкай, супэрфосфатам. | 1. 30 п. фосфарытнай мукі ($^1/_2$ ф. на 1 кв. саж.).<br>2. 15 п. тамасаўкі ($^1/_4$ ф. на кв. саж).<br>3. 15 п. супэрфосфату ($^1/_4$ ф. на кв. саж.).<br>4. Кантроль (чысты папар без угнаеньня). |
| 6. Розны час пасеву пшаніцы-зімкі | 1. Пасеў пшаніцы ў час першай сяўбы жыта.<br>2. Пасеў на тыдзень пазьней.<br>3. Пасеў на 2 тыдні пазьней. |
| 7. Розныя спосабы і тэрміны заворваньня поля на зябь. | 1. Мелкая воранка пасьля прыборкі жыта.<br>2. Мелкая воранка пасьля прыборкі жыта і глыбокая—ўвосень. |

---

*) $\frac{5,5 . 408}{28}=80$ фун.

**) Тэма 2 і 3 ня ў кожнага гаспадара могуць знаходзіць сабе месца, бо іх лепш было-б закласьці з вясны.

| | |
|---|---|
| | 3. Адна глыбокая воранка ўвосень. |
| | 4. Глыбокая воранка ўвосень і вясною. |
| | 5. Глыбокая воранка вясною. |
| 8. Угнаеньне поля пад караньплоды ўвосень і вясною. | 1. 2400 п. гною ўвосень (1 п. на кв. саж). |
| | 2. 2400 п. гною вясною (1 п. на кв. саж). |
| | 3. 2400 п. гною ўвосень з паглыбленьнем глебы асыпнікам па баразьне. |
| 9. Спосабы сланьня лёну. | 1. Сланьнё лёну пасьля выціраньня галовак. |
| | 2. Сланьнё лёну з галоўкамі зараз-жа пасьля прыборкі, як апісана Я. Марозам („Плуг" № 8). |
| 10. Заворваньне асушанага балота пад пасеў аўса-вычкі. | 1. Заворваньне ўвосень без пераворкі вясною. |
| | 2. Заворваньне вясною. |

Вядомая рэч, тэмы досьледаў, як і іх схэмы ня могуць быць для гаспадара абавязковымі. Кожны селянін-дасьледчык можа дапаўняць свае тэмы, а схэму дапаўняць сваімі дзялянкамі. У кожным разе ўмовы яго практычнай працы, гутарка з агрономам на месцы шмат у чым дапамогуць.

Як выбіраць поле пад досьлед, разьбіць дзялянкі і залажыць самы досьлед, тут гаварыць ня буду, бо аб усім гэтым ужо пісалася ў „Плузе" № 3 (15 стар.). Трэба толькі лішні раз падкрэсьліць, што пры закладцы вопыту ўсё ад пачатку і да канца падрабязна і акуратна запісваецца, а схэма вопыта вычэрчваецца на паперы, дзе і ставяцца №№ дзялянак.

Кожны раз, як ставіцца досьлед, скажам з угнаеньнем, трэба ўважліва пачытаць кніжку, дзе пішацца аб гэтым угнаеньні, вырабу поля пад тую расьліну, з якою ставіцца досьлед; таксама трэба ведаць характар сваёй глебы і г. д. *).

Усё гэта можа шмат дапамагчы селяніну-дасьледчыку растлумачыць добры ці дрэнны ўраджай на кожнай дзялянцы.

Усе гэтыя асаблівасьці ўмоў пры якіх праводзіцца досьлед, трэба апісваць і пры падрыхтоўваньні вынікаў досьледа да друку.

У апошнім выпадку, калі селянін-дасьледчык рашаецца вынікі свайго досьледу паказаць шырокаму колу чытачоў і гаспадароў практыкаў, то ён павінен добра памятаць, што за свае лічбы і вынікі ён бярэ на сябе вялікую адказнасьць дасьледчыка. Вось чаму ў кожнай лічбе досьледу селянін-дасьледчык павінен быць упэўнены, а дзеля гэтага вучот і самы досьлед трэба праводзіць вельмі акуратна.

Пры няўважлівым вучоце вопыту можа здарыцца, што ў другога селяніна той-жа вопыт і пры тых-жа ўмовах дасьць іншыя і адменныя вынікі.

*) Можна ўзяць № 12 „Плуга" і там па зьместу знаходзіць патрэбны артыкул.

Лепш за ўсё апублікоўваць свае досьледы тады, калі будуць аднолькавыя вынікі за 2-3 гады; а калі друкуюцца вынікі досьледу за адзін год, то гэта патрэбна агаварыць.

У працы кожнага селяніна-дасьледчыка будзе шмат перашкод, але яны не павінны яго палохаць ці спыняць яго працу. Толькі вопыт замацоўвае новае ў сельскай гаспадарцы *).

С. Тупяневіч.

# Лён-даўгунец.

**Лён-даўгунец, калі яго сеяць асобна ад нашых мясцовых ільноў, за 33 гады ня страціў сваіх якасьцяй.**

У 1893 годзе я атрымаў трошкі насеньня пскоўскага лёну-даўгунца, як дадатак да аднае с. г. часопісі. Раньняй вясной я гэта насеньне пасадзіў на градцы шырынёю ў $1^1/_2$ арш. ў 2 радкі, зярно ад зярна на 2 вярш. Рэдка пасаджаны лён добра раскусьціўся. Сьпелыя галоўкі я зьбіраў, а зелёнаваты лён рос і кусьціўся. Перад самым марозам я ўвесь лён выбраў і павесіў над хатаю пад дахам, а калі галоўкі высахлі, то выцер яго. Усяго атрымаў насеньня 5 фун. Хутка з гэтых 5 фун. я вывеў патрэбную колькасьць насеньня для гаспадаркі. У апошнія гады лішкі насеньня ў мяне купляліся суседзямі ці ішлі на выраб алею.

У 1923 г. ў нас быў пажар, згарэлі 2 клеці з вазоўней. Разам са збожжам згарэла і насеньне лёну-даўгунца. Прышлося на пасеў даставаць насеньне ў суседзяў, якія разьвялі лён з нашага насеньня.

Вясною 1925 г. у двух знаёмых льнаводаў я дастаў па 10 фун. мясцовага лёну. Каб праверыць, якое з гэтага насеньня лепшае, я пасеяў яго на адным полі і ў адзін дзень. Потым выявілася, што лён першага суседа быў мяшаны: *кветкі меў белыя і блакітныя, а рост маленькі. Лён-жа другога суседа красаваў увесь блакітным і быў сярэдняга росту.* Абодвы пасевы гэтага лёну пачалі красаваць на тыдзень раней за наш, а таксама на тыдзень раней пасьпела і насеньне.

Так, на практыцы мы бачым, што ў нас пскоўскі лён-даўгунец за 33 г. не перарадзіўся, дзякуючы таму, што сеяўся ён у нас на хутары далёка ад суседніх пасеваў лёну. Тое-ж самае і з лёнам, які быў узяты мною ў суседа, бо і там ён быў пасеяны асобна ад другіх ільноў.

У некаторых кніжках па льнаводзтву гаворыцца, што лён-даўгунец пскоўскі хутка зводзіцца, але выявілася, што пры нашых умовах ён за такі доўгі час, як 33 гады, ня страціў сваёй якасьці. Пасьпяваньне яго на цэлы тыдзень пазьней за мясцовых сартоў.

*Выбраўшы лён, я адразу паслаў яго радкамі*; прычым галоўкі лёну аднаго радка клаліся на камлі другога. Пачаўшыяся дажджы не дазволілі падняць лён у свой час. Але пасьля малацьбы ён аказаўся добра і роўнамерна вылежаўшым; валакно таксама выглядала моцным і было доўгае. Насеньне-ж часткаю пачарнела ад дажджоў.

Цікава, што ў кнізе Я. П. Мяшчэрскага „Лён-карміле́ц", выданай у Маскве выдавецтвам „Новая Деревня", аддана перавага гэтаму спо-

*) Просьба да сялян-дасьледчыкаў—найбольш выразныя вынікі сваіх досьледаў апісваць і прысылаць рэдакцыі, хоць-бы лічбы былі і аднаго году (Рэд.).

сабу сланьня лёну і ў нашым Лепельскім раёне шмат якімі гаспадарамі ён ужываецца ўжо даўно. У мокрыя гады лён у снапох гніе і вылежваецца не роўнамерна.

Вясною г. г. я зьвярнуўся да Энгельгардтаўскай с.-г. дасьледчай станцыі з просьбай аб высылцы крыху сэлекцыйнага насеньня лёну-даўгунца, але выявілася, што звычайнаму селяніну добрага насеньня лёну дастаць на станцыі нельга. Паштоўкаю Энгельгардтаўская станцыя мяне паведаміла, што сэлекцыйнае насеньне яна выслаць ня можа і замест яго прышле 20 фун. несэлекцыйнага насеньня пскоўскага даўгунца Астроўскага кража; насеньне добрае якасьці, па цане 5 руб. за пуд.

Я пакінуў і падрыхтаваў пад лён кавалак поля, але насеньня не атрымаў. Станцыя мяне падвяла, вярнулася старая „казёншчына“. (Ліст станцыі ад 20/IV за № 1178 да гэтага далучаю [1]).

Мне-б вельмі хацелася, каб рэдакцыя „Плуга“ дастала на вясну 1927 г. на станцыі насеньня лепшага лёну і разаслала сваім падпішчыкам па некалькі грамаў.

Лён вельмі лёгка і хутка разьвесьці.

(Фатынь, Бачэйкаўскага раёну). Селянін **Я. Мароз.**

---

# Як навучыўся я сеяць кораньплоды.

## Турнэпс.

У 1924 годзе першы раз я даведаўся аб існаваньні такой расьліны, як турнэпс. Я купіў яго чвэрць фунта і засеяў 3 кв. сажні на тарфяніку і 3 кв. сажні на супяшчанай глебе па сьвежаму ўгнаеньню (з разьлікам 1200 п. на дзес.). Як сеяць турнэпс, я таксама ня ведаў і ня прышлося пытацца ў агронома, але ведаю калі маленькія зярняткі, то і сеяць іх трэба ня глыбока. 21-га траўня я пасеяў турнэпс і праз дней якіх пяць ён узышоў; узышоў турнэпс густа і я яго прарваў. Далей, як ён ужо падрос лісткі ў чатыры, я яго яшчэ раз прарваў і пакінуў расьліну ад расьліны прыблізна вяршкі на 3-4.

Тыдні якіх чатыры турнэпс мой амаль зусім ня рос, але на пяты тыдзень хутка стаў расьці, тады я ўбачыў, што яму стала цесна, але-ж ня ведаў што рабіць ці прарваць, ці так пакінуць і надумаўся вось што: разьмеркаваў яго якраз на дзьве роўныя часткі. Адну частку прарваў і пакінуў расьліну ад расьліны вяршкоў на 6-7, а другой не прарываў да самай восені. Увосень ураджай сабраў паасобна з кожнага вучастку і зважыў. З няпрарванай градкі атрымаў 1 п. 25 фунт., а з прарванай 2 п. 28 ф. турнэпсу.

У 1925 годзе я пасеяў яго ўжо больш (30 кв. саж.) і к гэтаму часу я дастаў кніжачку А. А. Зубрыліна „Возделывайте корне-и-клубнеплоды в них великая польза“. Стаў ёй кіравацца да ўжо і свой вопыт быў. Цяпер я ўжо яго пасеяў радамі прыблізна вяршкоў 10 рад ад раду і пакінуў посьле прарэджваньня расьліну ад расьліны вяршкоў

---

[1]) Рэдакцыя прыводзіць гэты ліст. „Па дзяржаўнаму пляну насеннаводзтва, усе апрабаваныя і выведзеныя станцыяй сэлекцыйныя сарты лёну перадаюцца Энгельгардтаўскай госсемкультуры. Прыватныя просьбы на сэлекцыйны матар'ял не здавальняюцца. Вам будзе адпраўлена паштовай пасылкаю 20 фун. несэлекцыйнага насеньня лёну пскоўскага даўгунца Астроўскага кража, досыць добрае якасьці, па цане 5 р. за пуд“.

Вельмі шкода, што Энгельгардтаўская станцыя ня ведала, што за пакецікам лёну да яе зьвяртаўся селянін-дасьледчык беларускі „Мічурын“, якому можна было-б зрабіць выключэньне. (*Рэд.*).

на 7-8. Догляд за імі быў такі: разы чатыры на леце палоў і пульхніў зямлю, а як бацьвіньне ўжо стала вялікае, тады спыніў працу ўжо да самай прыборкі. Тут я ўжо даведаўся, што гной пад яго трэба класьці з восені і поле абавязкова ўзараць на зіму. Поле то я ўзараў на зіму, але гною не палажыў, бо ня было і сеяў зноў па сьвежаму ўгнаеньню. Ураджай турнэпсу з 30 кв. саж. быў 46 пудоў, а па разьліку на дзесяціну 3680 пудоў.

Сёлета я пасеяў ужо 300 кв. саж. турнэпсу. З восені зямлю ўзараў і палажыў палавіннае ўгнаеньне, а другую палавіну гною па разьліку 20 ф. на 1 кв. саж. палажыў вясной. Зямлю я выробляў вось як: з восені, зьняўшы выку, на поле вывез гной, прыараў яго глыбінёю вяршкі на 2-2$^1/_2$ і заскародзіў. Праз некаторы час я ізноў узараў, але ўжо на глыбіню вяршкоў чатыры (трэба было-б глыбей, але мой конь не пацягня) і пакінуў у пластох на зіму. Вясной, як толькі стала магчыма выехаць у поле, я поле паскародзіў, узараў і пасьля ізноў паскародзіў, каб ня страціць вільгаці, і праз пару дзён вывез гной і паганяў градкі шырынёю ад 1 да 1$^1/_2$ сажня і даўжынёю сажняў 10-12. Потым грады заскародзіў ручнымі дзяравяннымі граблямі і пасеяў турнэпс радамі, рад ад раду на 12—24 вяршкоў з такім разьлікам, каб рад цягнуўся з поўначы на поўдзень; гэта дзеля таго, каб сонца лепш саграваля паміж радкоў зямлю. Таксама, калі бывае вялікая жара, тады сонца ня так выпякае маладзенькія карэнчыкі расьлін, бо яны стоячы шэрагам з поўдня на поўнач сваімі лісткамі заценьваюць іх.

Догляд за турнэпсам такі самы, як і ў мінулым годзе.

Аб выніках ураджаю напішу ўвосень.

Яшчэ трэба адзначыць, што як толькі турнэпс узойдзе (а ўсходы яго зусім падобны да ўсходаў капусты, бручкі, рэдзькі і др. крэстаквятковых рясьлін), то ён першыя 3-4 тыдні вельмі туга ідзе ў рост, а таксама яго маладзенькім лісточкам вельмі шкодзіць земляная блыха, якая яго лісьце, як бы праколывае іголкай; але гэтага вельмі баяцца ня трэба, бо ён посьле 3-4 тыдняў гаспадара свайго адразу падвясяліць. Сеяць яго трэба на поўвяршка глыбінёю, а калі зямля сухая на вяршок, а ў сырую зямлю на $^1/_4$ вяршка: ён тады раўней і хутчэй узойдзе. Цяпер я ўжо ведаю, што турнэпс расьце на ўсякай глебе: на суглінку, на супесі, на пескавой і на тарфяніку, толькі трэба ўгнойваць па разьліку 1 п. гною на 1 кв. саж. і як я бачу з сёлетняга свайго турнэпсу, то лепш угнойваць з восені і глебу выробляць так, як я напісаў тут.

І так я раю сеяць усім турнэпс, бо з яго добры корм дзеля скаціны, асабліва малочным каровам.

Час пасеву павінен быць раньні да 25 траўня, а пазьнейшы з 6-га і па 10-га ліпеня. Высеянаму турнэпсу ў чэрвені вельмі шкодзіць земляная блыха (маленькая кузурка); яна бывае чорненькая з жоўцінькімі палоскамі па двох бакох сьпінкі; яна таксама скача, як і звычайная блыха.

Я высяваю турнэпс да 25 траўня; земляных блох яшчэ ў гэты час вельмі мала.

Сёлета ў мяне турнэпсам і кармовымі буракамі засеяна 600 кв. саж. Аб выніках пасеву кармовых буракоў напішу ў бліжэйшы час.

Гледзячы на мяне сталі сеяць турнэпс мае суседзі, Мяжэнны Ціт, Дзяцюкоў Васіль, Гомераў Янка і Жаўранак... Сёлета вясной суседзі прыходзілі да мяне за парадай, як сеяць турнэпс. Селянін **Судакоў.**

# Выка ў папары ня зьніжае ўраджаю жыта.

*(З сялянскае практыкі).*

Калі я першы раз заводзіў у сябе выкавы папар, то баяўся, што гэты папар на многа зьменшыць ураджай жыта, бо я чытаў у сялянскіх часопісях, што выка зьніжае ўраджай жыта. Праўда, гэта ня страшна, бо недахоп акупляецца тым кормам, які дае выка ў папары; але-ж мне не хацелася, каб потым сяляне гаварылі; што маё жыта горш іхняга. Каб гэтага ня было, я зрабіў так на адным з двух вучасткаў, роўных па плошчы, паклаў 10 вазоў гною пад выку, а на другім толькі 5 вазоў з тым, каб рэшту 5 вазоў пакласьці тады, як зьбяру выку і ўзару пад жыта. Так потым я і зрабіў.

І вось якія вынікі атрымаліся. Выка была амаль што роўная на абодвых вучастках. А вось, як я ўжо на абодвых вучастках пасеяў жыта, дык розьніца была вялікая. На тым кавалку, які я ўгнойваў два разы, перад пасевам выкі і пасьля прыбіраньня яе, рунь пашла адразу добрая і густая. Вясной жыта пашло ў рост раней і дало ўраджай ня толькі ня горшы, як на звычайным папары, а наадварот, куды лепшы. А ў параўнаньні з тым жытам, пад якое ўвесь гной быў пакладзены адразу перад пасевам выкі, яно было і на рост і на умалот лепшым у два разы. Гэты вопыт я ў сябе паўтарыў і ён зноў ўдаўся.

Я раю ўсім гаспадаром, якія завялі выкавы заняты папар, *каб гной яны клалі не адразу, а ў два прыёмы,—палову пад жыта, а палову пад выку.* Гэта дасьць ня кепскую выку і добрае жыта пасьля яе.

Селянін **А. Зорскі.**

(Вёска Малюшын, Калінішчына).

---

# Што далі селяніну купіны.

*(Вярхочанскі сельсавет, Полацкага раёну).*

Малады гаспадар Максім Сяржанаў нядаўна атрымаў невялікі кавалак сенажаці ў $^1/_{10}$ дзес. Сенажаць гэта была ўся пакрыта куп'ём і мяккім, як падушка, мохам. Сяржанаў рашыў зьнішчыць купіны і мох; яго моцныя рукі і сталёвая рыдлёўка працавалі над зьнішчэньнем таго, на што раней спакойна пазіралі дзяды і прадзеды. Нарэшце купіны зрэзаны, зьнесены на суседнюю ніву і зложаны ў высокую кучу. Пожня ачышчана ад шматлетняй паршы, па ёй стала свабодна ступаць нага чалавека. Сяржанаў пасыпае пожню попелам і мяняецца травастой: замест дзікага сіўцу і чырвонага моху вырасьлі кармовыя травы—*канюшына, мятліца лугавая і інш.*

Перазімавалі купіны ў высокай кучы, у ліпні гаспадар раскідаў іх па ніве, ужо як мяккі перагной, і ўвосень 1925 г. пасеяў жыта.

Жыта ў Сяржанава вырасла лепшае, чым у другіх і нічым ня ўступала жыту, якое пасеяна было на гнаі.

А вось паглядзеце ў вёсцы Калошкі Вярхочанскага с/с, ці Бараватка Юравіцкага с/с. Там дзікія купіны знаходзяцца нават у гародах. Гаспадаром гэтых вёсак, відаць, няма часу іх зьнішчыць, як ня было часу зрабіць гэта і іхнім дзядом.

Грамадзяне! зрэзвайце на сваіх сенажацях купіны, бо яны—„хлеб“. Бярэце добры прыклад з Сяржанава!

Сел. **Г. Шасьціtка.**

(Сарнаполь, Полаччына).

# САДОЎНІЦТВА

## Правільна закладайце маладыя сады.

Яшчэ будучы маладым студэнтам я шмат чытаў аб садох, а калі майму бацьку ў Смаргоні (Віленшчына) трэба было садзіць сад, дык добрай рады я тады ня мог даць. Мой настаўнік і таварыш, вядомы профэсар А. Н. Чалінцаў, раіў дасьледаваць ужо існаваўшыя сады (узросту 30-40 год) у нашай мясцовасьці і па выніках дасьледаваньня выявіць больш гандлёвыя трывалыя сарты, лепшую адлегласьць паміж дрэвамі і г. д.

Таму ўжо мінула 15 год. Дасьледаваньне садоўніцтва па раёнах ня зроблена на Беларусі. А жыцьцё ідзе шпарка наперад. Сялянства закідвае нас запытаньнямі. Тое, што можна радзіць, напрыклад, аб сартох для Аршаншчыны, не падыходзіць для ўмоў Случчыны, Мазыршчыны і г. д.

Па досьледах Горацкай садовай дасьледчай станцыі і нашых лепшых дасьледчыкаў-сялян, пры закладцы садоў трэба прытрымлівацца наступных умоў. 1. Падглебавая вада павінна быць ня бліжэй, як 2 мэтры (3 арш.) ад паверху. Гандлёвыя сады ў Нямеччыне закладаюцца на плошчах, дзе вада ня бліжэй 4-х мэтр. (6 арш.) ад паверху. Плошча павінна мець добры вадасток. Лепшая глеба—суглінак. За 2 гады перад пасадкай прышчэп, палетак трэба добра ўгнойваць і садзіць на ім бульбу. Там, дзе ёсьць магчымасьць, садзіць дрэвы ўвосень (на больш лёгкіх глебах); ужо да 10 га верасьня бульба павінна быць выкапана, бацьвіньне ад бульбы сабрана і наогул вучастак павінен быць добра выскараджаны. Перад высадкай прышчэп трэба добра разьмеркаваць плошчу, адзначыць мясьціны, дзе будуць пасаджаны дрэвы. Пасадка робіцца квадратам ня менш 12 аршын, (да 15-18 арш. дзеля антонаўкі, дрэва ад дрэва).

Заўважым, што пры значнай адлегласьці паміж дрэвамі, можна будзе шмат дзесяткаў год карыстацца прамежкам (дзеля гародніны, караньплодаў). Удзень пасадкі трэба спачатку ўбіць на адзначаных мясцох калы (бяз кары яловыя або сасновыя) на $1^1/_2$ арш. ад зямлі. Прымаючы пад увагу, што карэньні ў 2-3-х гадовых прышчэп павінны быць адрэзаны (на $^1/_3$), можна зусім мелка рыдлёўкай выкапаць яму абы толькі зьмясьціліся карэньні і каб прышчэпы сядзелі на новым месцы гэтак-жа сама, як і ў выхавальніку. Глыбокіх і шырокіх ям мы ня раім капаць. Кароны дрэва ўвосень не падразаць, а толькі ў пачатку вясны.

Вынікам гаспадарчай дзейнасьці селяніна зьяўляецца прадукт Садавод павінен рупіцца аб якасьці свайго прадукту—яблыка, ігрушы, сьлівы і г. д. На старонках „Плуга“ зьмяшчаліся артыкулы аб нашых

асортымэнтах пладовых дрэў. Пытаньне гэта вельмі адказнае. Мы павінны даць селяніну дрэва, каб яно пры спрыяючых умовах жыло да 60-80 год і плады мелі вышэйшую гандлёвую вартасьць. Зноў падкрэсьлім, што для Ўсходняй Беларусі пакуль што (згодна шэрагу досьледаў) можна раіць і лепшыя адмены антонаўкі, бабушкіна, штрэйфлінг, цынамонавае паласастае. Дзеля Захаду і Паўдня Беларусі, апрача таго, яшчэ пэпін літоўскі і бэру Случчыны.

Апошнія досьледы Горацкай станцыі сьведчаць аб тым, што кветкі антонаўкі добра абпылкоўваюцца цынамонавым паласастым і каробаўкай-мядунічкай. Чыстыя антонаўскія сады (калі блізка няма садоў з іншымі сартамі) у нашых варунках павінны быць бязплоднымі. Во чаму пры выбары сартоў трэба заўважыць і апошняе.

*Можна мець добры прадукт, але трэба яго добра прадаць.* Во чаму, калі ў аднэй ваколіцы згуртуюцца некалькі тысяч пудоў антонаўкі гэты сорт лёгка прадаць. Новыя сады павінны закладацца гуртам, на абшары ад 10 да 20-30 дзес. Аб выгаднасьці групавых садоў ужо друкавалася ў „Плузе“.

*Перапрацоўка пладоў і ягад у віны, пасьцілу павідла і г. д.* магчыма толькі хаўрусам, бо яна вымагае абсталяваньня каштоўных машын, спэцыялістых і г. д. 4. *Правільна пасаджаны сад вымагае добрага догляду,* добрага ўгнаеньня глебы. Трэба сачыць за маладымі дрэвамі, трэба весьці барацьбу з шкоднікамі.

Садаводы павінны памятаць, што толькі хаўрусам, праз с.-г. гурткі, яны зробяцца моцнымі, культурнымі. Чытайце с.-г. часопісь, знаёмцеся з сваім раёнам, з лепшымі садовымі гаспадаркамі, выхавальнікамі. Сачэце за дасягненьнямі нашых дасьледчых станцый.

Тады пазбавімся ад тых памылак, ад тых шкодных крокаў, якія рабіліся нашымі бацькамі і дзядамі*).

**М. Бурштэйн.**

---

# Як пасадзіць малады сад.

*Выбар месца.* Пад сад неабходна выбіраць роўнае месца з невялікім схілам на захад і на паўднёвы захад. Грунтовая вада павінна быць ад паверхні зямлі ня менш як 3—$3^1/_2$ арш.

Сад; які прыжыў на месцы з блізкай грунтовай вадой, хварэе і хутка ўсыхае.

Дрэнна закладаць сады ў нізінах і равох, куды лёгка западае сьнег і можа паламаць дрэвы. Мае значэньне пры закладаньні і абарона садоў, якая захоўвае дрэвы ад вялікіх вятроў, марозаў, высыханьня грунта, ад паломкі галін і зрываньня пладоў. Лепшым дрэвам дзеля аховы саду лічыцца елка. Сад ахоўваецца заўсёды адным родам дрэў з паўночнага боку на 12 арш., з усходняга боку 14 арш., з заходняга на 15 арш., а з паўднёвага добра было-б мець пасадкі на 22 арш. (15 мэтр.) ад саду.

*Падрыхтоўка глебы.* Калі перасаджанае дрэва да ліпня месяца вырасла мала, то яно такім недарослым і застанецца ў першым годзе. Таксама і ў далейшы час свайго разьвіцьця такія дрэвы затрымоўваюцца ў росьце. Каб гэтага ня было, *трэба маладыя дрэвы садзіць*

---

*) Выдавецтвам НКЗ надрукован плякат „Правільна пасаджаны сад—багацьце дзецям і ўнукам“ (М. Б.).

*толькі на вельмі пагнойнай глебе*, прыкладам, дзе была бульба. Той кавалак зямлі, на якім будзе пасаджаны сад, усьцілаецца гноем да 3—4 тысяч пудоў на дзес.

Угнойваецца поле за 2 гады да пасадкі саду. Калі не хапае гною, то сеюць лубін і заворваюць яго зялёную масу. На такой угноенай глебе раней сеюць бульбу, капусту, буракі і інш. расьліны. Араць трэба на глыбіню ня больш 4—5 вярш. У Беларусі араць на перавал ня трэба.

Пад садам ворны слой глебы павінен быць пухкі суглінак, альбо жоўты лёсс (гліна), але ня чырвоная гліна.

*Падрыхтоўка дрэў* у сад робіцца ўвосень. Тады магчыма выбраць лепшыя дрэвы і з вясны іх можна пасадзіць. Капаць дрэвы дзеля пасадкі трэба ў 2-й палавіне верасьня і хаваць у канаўках з прысыпанымі карэньнямі. Асноўнай пародай для Беларусі зьяўляецца яблыня, а дзеля Случчыны і Мазыршчыны яблыня і ігрушы на 20 проц. (бэра слуцкая).

З яблын трэба браць антонаўку камянічку—75 проц., бабушкіна 10 проц., пуцімку, штрэйфлінг, кальвіль пахучы, ружовае, цынамонавае паласастае, сьлівы—рэнклод зялёны.

*Пасадка* раіцца квадратовая. Новыя сады павінны мець адлегласьць паміж дрэвамі (8—9 арш.) і больш, каб дрэва добра расло і каб галіны аднаго не чапляліся за галіны другога дрэва, а даволі асьвятляліся.

Дрэвы з шырокаю каронаю павінны мець і большую адлегласьць паміж сабою. Антонаўка, напрыклад, 12—16 арш., а з меншаю, як пэпін і ігрушы—10-12 арш., сьлівы і вішні—7 арш.

Найлепшая пара для пасадкі саду раньняя вясна, альбо раньняя восень. На шчыльных глінястых глебах лепш садзіць вясною.

Перад пасадкаю дрэва, падразаюцца пакалечаныя карэньні, каб аны хутчэй гаіліся. Ямы капаюцца няглыбокія (вярш. 4—5), каб там глі зьмесьціцца карэньні. Далей ставіцца дрэва ў яму, паступова праўляюцца карэньні, засыпаюцца зямлёю і ўтаптваюцца. Пасаджа- дрэва павінна сядзець на такой-жа глыбіні, як яно сядзела і ў вальніку. Пасьля гэтага з паўднёва-ўсходняга боку забіваецца кол, га падвязваецца дрэва. Каб дрэва лепш расло, зьверху зямля ваецца з кампостам ці ляжалым перагноем.

ліваць дрэвы трэба рэдка (вадою).

ершыя гады пасьля пасадкі паміж дрэвамі сеюць гародныя 'бульбу, буракі, рэпу), выку з аўсом і г. д., але ня збожжа. вы падразаюцца. Найбольш доўгія галіны падрэзваюцца ейшыя на $^1/_3$ сваёй даўжыні.

вінен быць наўскос ад вочка.

**Ф. Старавойтава.**

ія).

# цтва Мазыршчыны.

*ст селяніна).*

ай с. г. Акадэміі прыслала да рэдакцыі чны А. Сіцько, які мы і зьмяшчаем

вых дрэвах кветак было шмат, не падпала ў няспрыяючую пагоду

вельмі хмарную і халодную, а ўначы з прымаразкамі. Такім чынам пчолы і інш. кузуркі ў апылкаваньні прымалі малы ўдзел. Пыльнікі дрэнна пасьпявалі; некаторыя нават патрэскаліся; таксама мелі недахопы і рыльцы. Пасьля красаваньня пагода таксама была ня вельмі спрыяючая. Ураджай сёлета ў нашым Капаткевіцкім раёне па садох будзе нязначны. У сваім садзе, здаецца, за малым выключэньнем плады ёсьць на ўсіх дрэвах.

Што датыча косткавых парод майго саду, дык дрэвы летась аддалі ўсю сілу пладам. Ніякія падпоркі ня здолелі ўтрымаць ураджай. Сёлета косткавыя слаба цьвілі, чаму і будзе малы ўраджай, але на сьлівах маюцца плады і разьвіваюцца ня горш іншых гадоў.

Калі хочаце пазнаёміцца з нашым асортымэнтам і з становішчам садоўніцтва нашага (Капаткевіцкага) раёну, дык трэба лепш за ўсё выбраць пару, пачынаючы з 1 верасьня. Для азнаямленьня з асеньнімі і зімовымі сартамі, калі плады (асабліва замежныя атрымоўваюць афарбоўку) трэба выбраць час ад 1 кастрычніка да канца лістапада. Летнія сарты ігруш і яблык пачынаюць пасьпяваць у маім садзе з 1 жніўня і раней; вішні і чарэсьні з 1 чэрвеня да канца жніўня, сьлівы з 15 жніўня да канца лістапада.

Пакуль што (26-VI) адсылаю вам чарэсьні—майскую жоўтую і майскую чырвоную, вішню „каралеву гратэнзію", гібрыд паміж вішняй і чарэсьняй і некалькі сартоў парэчак, атрыманых з уласных сеянцаў. Таксама адсылаю клубніцы і суніцы, якія пладаносяць ад травеня аж да зімы".

А. Сіцько.

Капаткевічы.

---

# Трэба самому вырашчваць дрэвы для саду.

Вельмі кепска выглядаюць нашы вясковыя сады. Ніякае красы, ні радасьці, ні карысьці ад іх.

А усё гэта, галоўным чынам, затым, што мы ня ўмеем даглядаць за садам, дрэвы садзім густа, часта садзім усялякі брак, бяз добрай кароны. Гэты брак дае дробныя, горкія малакаштоўныя плады. Прычынаю гэтаму зьяўляецца нястача ведаў у нашага селяніна па садоўніцтву і жаданьне купіць дрэвы дзешавей. Кожны гаспадар павінен ведаць, што з бегам часу кепскае, дзяшовае дрэва ў садзе абойдзецца даражэй дарагога, бо пройдзе шмат год пакуль яно стане прыносіць плады, ды і тыя будуць благія і дзяшовыя. А часта здараецца, што селянін за добрае дрэва купіць дзічку, якая толькі дарма займае месца, а яблык ніколі ня дасьць.

У сучасны момант добрыя дрэвы можна дастаць у выхавальніках, якіх на Беларусі ёсьць шмат. Цана на дрэўцы нявысокая ад 50 кап. да 1 р. 50 кап. за штуку.

Аднак на куплю прышчэп патрэбны грошы, хоць і невялікія, а ў селяніна іх часта ня бывае. У такім выпадку лепш за ўсё вырашчваць дрэўцы ў сваёй гаспадарцы. Дрэвы сваёй гадоўлі бываюць трывалыя, хутка прыжываюць, добра растуць. Гадоўля іх ня будзе каштаваць грошай. Калі-ж знойдзецца лішак такіх дрэў, дык іх можна прадаць і такім чынам акупіць сваю працу.

Селянін С. Сялюкін.

# Жывёлагадоўля



## Якую маюць скаціну сяляне вёскі Тушкова Аршанскае акругі і як яе даглядаюць.

Вёска Тушкова знаходзіцца ў 5 вярстах ад Горак. Ляжыць яна на ўзгорку. З левага боку яе ў напрамку Магілеўскага бальшака цягнецца балота і цячэ маленькая рэчка „Проня“, а з правага ляжыць поле. Двароў мае 96, каля 500 чал. мужчын і жанчын. У вёсцы налічваецца беднаты процантаў 30, столькі-ж будзе багацейшых, а рэшта—серадзякі. Вуліца вёскі вузкая, каля хат зусім ня відаць гародаў, якіх поўна ў Случчыне і інш. мясцовасьцях. Садоў таксама мала. У некаторых сялян ёсьць добрыя хаты на манэр гарадзкіх.

Хлявы ў багацейшых цёплыя, але бяз столі і вокан, а ў бяднейшых зусім дрэнныя, з шчылінамі і дзюравымі стрэхамі. Ніякіх кармушак, апрача жалабоў для коняй і карыт для сьвіней, у хлявох няма. Вазы і збруя дрэнныя, двары гразкія. Усяго сяляне маюць коняй да 120 галоў, кароў да 180, авец—170 і сьвіней да 130.

*Даглядаюць сваю жывёлу* сяляне дрэнна і кормяць яе зімою зусім няўмеючы. Даюць толькі салому, мякіну і рэдка сена—гэта рагатай скаціне і коням. Ня лепш кормяць зімою сьвіней і авечак. Толькі два гаспадары даюць каровам макуху, але вельмі ў малой колькасьці і пасыпаюць паранку вобмешкай. Аб бульбе, буракох, моркве, турнэпсу і інш. корме і гутарыць не выпадае: канюшыны і выкі, сэрадэлі і караньплодаў ня сеюць, за сенажацямі не глядзяць, а абходзяцца толькі саломаю ды дрэнным сенам, якога не хапае жывёле і якое прыходзіцца касіць на 1/3 альбо 1/4 частку ў суседнім саўхозе. Але і гэта шчасьце выпадае на долю толькі дужэйшых гаспадароў.

Такім чынам, корму ў сялян няма, а жывёла ёсьць, і нават шмат яе. Некаторыя багацейшыя сяляне маюць 2-3 кані, 3-4 каровы, 5-7 сьвіней, 8—10 і больш авечак; серадзякі маюць усяго гэтага на палову, а бяднейшыя па 1 каню, 1 карове альбо і зусім нічога не маюць.

Большая частка сялян займаецца земляробствам, а меншая апрача таго—вырабляе скрыні (куфры), калёсы, бочкі і інш. і возяць гэта ўсё ў горад альбо ў мястэчка на продаж. Іншыя зарабляюць на гэтым да 200—300 руб. Частку заработка сяляне трацяць на хлеб і корм для жывёлы. Хлеба свайго рэдка ў каго хапае на цэлы год, хоць зямля добрая, суглінistая. Яе дрэнна вырабляюць. Усяго пахаці ў вёсцы да 500 дзес., 55 дзес. сенажаці каля вёскі, 25 дзес. сенажаці за 8 вёрст ад вёскі і да 40 дзес. няўдобіцы. Сыстэма карыстаньня зямлёй старая—трохпольная. Толькі 36 сялян зразумелі ўсю нявыгаднасьць гэтага ка-

рыстаньня і выходзяць на пасёлкі. Ім адрэзалі зямлю 3-х сартоў і разьбілі на 3 пасёлкі: аднаму пасёлку з горшай зямлёй далі па 1,05 дзес. на душу, другому з лепшай па 1,04 і трэцяму з добрай зямлёй па 1 дзес. Рэшта двароў засталіся на месцы і цяпер жывуць яшчэ падзедаўскі.

Каб паглядзець жывёлу вёскі, прышлося з членам сельсавету ісьці ў поле вярсты за 2—3. Перш агледжана рагатая скаціна. Па нашай просьбе тры маладыя пастушкі сабралі кароў у адно месца і далі магчымасьць агледзіць статак, выгляд якога вельмі стракаты. Скаціна вельмі худая. Усяго намі налічана 132 галавы. Прыгледзіўшыся добра, мы знашлі каля 70 галоў мясцовае пароды, да 40 галоў мэтысаў мясцовай пароды са швіцамі, 8 галоў мэтысаў мясцовай з ангельнамі; 8 цялят да году мясцовых, 4 цялят да году-ж мэтысаў са швіцкаю породай і 2 мясцовых бычкоў.

Мясцовая парода выяўляе сабою жывёлу на кароткіх нагах з вялікай галавою параўнаўча з целам, тоўстымі вялікімі рагамі, кароткаю асьліаю шыяй, тоўстым касьцяком, тоўстаю скурай, маленькім вымем, тонкімі малочнымі жыламі, маленькімі малочнымі ямкамі, кароткім хвастом, з правіслым у некаторых тулавам пры самай рознастайнай масьці (белыя, чорныя, чырвоныя, рыжыя, рабыя і інш.). Выглядаюць яны вельмі дрэнна: ёсьць худыя, аблезлыя, брудныя. Малочных кароў амаль зусім няма. Рэдка знойдзецца карова, якая дае кварт 10 малака, а то ўсё па 2—3 кварты ў дзень. Мэтысы выглядаюць трохі лепш з боку аднастайнасьці масьці, большага росту, здаровага касьцяку і лепшых малочных адзнак. З іх ёсьць штук 10—12 малочных, якія даюць кварт па 10 у дзень.

Вельмі дрэннае ўражаньне робяць 2 бугаі; яны худыя, кароценькія, нізкага росту, з кароўімі галовамі, тонкімі каркамі, слабым касьцяком, тонкімі нагамі.

Цяляты выглядаюць крыху лепш, але і яны маленькія і худзенькія. Стада паслося на папары, якога маецца да 150 дзес. Травы на ім мала і выпас дрэнны. Каровы пасуцца зранку да паўдня, у поўдзень іх гоняць да дому на дойку. А 2-й гадзіне іх зноў выганяюць на папар і пасуць да вечара.

Травы, вядома, не хапае і некаторыя старанныя гаспадыні падкармліваюць кароў дома.

На тым-жа папары паслося і другое стада з авечак і сьвіней. Першых было каля 170, а другіх каля 150 з парасятамі.

Авечкі ўсе мясцовыя, кароткахвостыя, маленькія, з грубаю шэрсьцю белыя, чорныя і інш.), худыя і аблезшыя. Бараноў мала.

Сьвіньні таксама большаю часткаю мясцовыя: маленькія, пузатыя, кароткія, з доўгім выцягнутым рылам, малымі вушамі, кароткаю шыей, кароткім тулавам, кароткімі сярэдняй таўшчыні нагамі, доўгай тоўстай шчацінай на сьпіне. Масьць іх—белая, чорная, рабая, рудая і інш. Ніводнай сьвіньні не знашлі вялікай; вельмі мала мэтысных з сярэдняю белаю ангельскаю сьвіньнёю. Кныр быў, але маленькі мясцовы. Культурныя-ж белыя ангельскія сьвіньні ёсьць на суседняй фэрме Іванова, але туды рэдка хто водзіць сваіх сьвіней. З сьвіньнямі разам пасуцца і парасяткі, але іх мала, бо мясцовыя сьвіньні малапладавіты і дрэнны на адкорм. Толькі на 3 годзе з іх можна выкарміць сама больш пудоў на 8—10 сальную сьвіньню. Выпас для сьвіней і авечак сярэдні.

Коні пасьліся ў балоце, але іх там было мала, бо большая частка сялян была ў гэты дзень у горадзе на кірмашы. Коні таксама мясцовыя

маленькія да 2-х аршын вышынёй, а ёсьць 2—3 проц. і вышэйшых. Па масьці коні буланыя, гнядыя, рыжыя, сівыя і інш. Галава ў коняй параўнальна з тулавам вялікая, шыя тонкая, холка слаба прыметна; грудзі вузкія, касьцяк слабы, тонкія з моцным капытом ногі, доўгі хвост. Коні рухавыя, але слабыя і палахлівыя. З усіх коняй толькі 5—6 знайшлося мэтысаў мясцовых з нарвэга-ардэнамі. Жарабкоў добрых у вёсцы няма. Пашы для коняй мала.

З абсьледаваньня можна зрабіць гэткія вынікі:

1. Трэба больш любіць жывёлу і лепш хадзіць каля яе; трымаць у добрым цёплым хлеве з вокнамі, мець кармушкі.

2. Трымаць больш завадзкіх бугаёў, жарабкоў, бараноў і кныроў, дзеля чаго арганізаваць таварыства, якое забясьпечыла-б сялян племянікамі, альбо зрабіць гэта праз коопэрацыю.

3. Пакуль што, трэба карыстацца племянікамі з Іванова і Горак. Можна таксама ўзяць на асобных умовах племянікоў у стада.

4. Трымаць замест 2-3 дрэнных кароў 1—2 добрых.

5. Перайсьці з 3-х польля на шматпольле, дзе завесьці канюшыну буракі, турнэпс.

6. Палепшыць свае балоты і сенажаці: асушыць іх і даглядаць як поле.

7. Сеяць больш выкі з аўсом і сэрадэлі.

8. Абавязкова падкармліваць кароў летам зялёнаю травою, а то і мукою, каб яны папраўілі цела і давалі больш малака.

9. Перайці ўсім сялянам на пасёлкі і тады лягчэй будзе ўсё гэта зрабіць і палепшыць жывёлу*).

П. Пратасэвіч.

---

# Як выгадаваць добрую карову.

Добрая карова можа прынесьці значны даход гаспадару, але трэба ведаць, як такую карову выгадаваць. Ад дрэннага быка і каровы, якая дае мала малака, нельга чакаць і добрага прыплоду. Затым на гадоўлю трэба пакідаць цялят толькі ад малочных кароў, прыпушчаных да лепшых завадзкіх быкоў. Цяля трэба таксама ўмець выгадваць. У нас звычайна на гэта мала зьвяртаюць увагі і цяля, як толькі крыху ўмацнее і пачне падымацца на ногі, ужо не даглядаецца. Кормяць яго забеленай вадой або дрэнным пойлам. А трэба памятаць, што малады організм расьце вельмі хутка, асабліва першыя 5-6 мес., затым у гэты час трэба добра карміць маладую жывёлу кармамі, якія маюць багата пажыўных матэрый (бялка). Калі ў гэты час жывёла галадае, не атрымоўвае патрэбнай колькасьці пажыўных матэрый, то ў будучыне яе паправіць цяжка і жывёла будзе расьці слаба, нават калі і пачне з часам атрымоўваць палепшаны корм. Адсюль відаць, якое вялікае значэньне мае для росту жывёлы першы год жыцьця.

Пры добрым кармленьні, добрым доглядзе і ўтрыманьні, цяля за суткі можа прырастаць ад 1 да 2 фун. жывое вагі. Напрыклад у племхозе імя Калініна цёлка «Дагмара», якая радзілася 25 лютага 26 году, па 1 травеня ў сярэднім дала прывесу 1,3 фун., а бычок «Набат», які радзіўся 23 студзеня г. г. таксама па 1 травеня ў сярэднім даў сутачны прывес 2,3 фун.

---

*) Абсьледаваньне зроблена з экскурсіяй студэнтаў Беларускай с.-г. Дзяржаўнай Акадэміі 30 траўня 26 г.

Для гадоўлі маладняка ёсьць многа прыкладных норм кармленьня, але цалкам іх праводзіць нельга, бо трэба прыняць пад увагу асаблівасьці жывёлы, яе разьвіцьцё, вагу, апэтыт і інш. і таму нормы гэтыя трэба зьмяняць у той ці іншы бок.

Можна толькі сказаць, што ў першыя дні жыцьця цяляці яно павінна атрымаць прыблізна $^1/_6$—⅛ частку ад свае жывое вагі. Калі, напрыклад, цяля важыць 60 фун., то яму трэба даць 7-10 фун. няздыманага малака ў дзень, прычым бычкам даецца нават і больш. У першы дзень даюць усяго 4—5 шклянак цёплага малодзіва, кармленьне якім зьяўляецца абавязковым, бо яно ачышчае жалудак цяляці. На другі дзень ужо 4—5 фун. малака, а затым poяць па вазе, прымаючы пад увагу апэтыт цяляці і інш. Дачу малака паступова павялічваюць з такім разрахункам, каб да 4-га тыдню сутачная дача дасягнула 18-20 фун. малака.

З 4-га тыдню пераходзяць з няздыманага малака на сьвежае здыманае, прычым пераход гэты павінен быць паступовым, штодзенна зьмяншаючы па 2 фун. няздыманага малака і замяняючы яго здыманым. На працягу 5-6-7 тыдняў цяля атрымоўвае толькі здыманае малако. Дзеля таго-ж, што ў здыманым малаку няма жыру, а ён патрэбен для падтрыманьня ў целе цяплыні, то добра дадаваць па ½ фун. ільнянага семя на галаву. Пачынаючы з 5 тыдню цяляці даецца ў невялікім ліку мурожнае сена і аўсяная мука. Калі гаспадарка мала мае здыманага малака, то на 8-м тыдню можна пачаць паіць цяля цёплай вадой з аўсянаю мукою ў такой паступовасьці, як і пры пераходзе ад суцэльнага малака на здыманае і такім парадкам да 9-га тыдню дачу малака зусім спыніць. Да гэтага часу дачу моцнага корму трэба давесьці да 4-5 фун. і мурожнага сена, колькі зьесьць.

Пасьля году цялят кормяць, як сухастойных (нядойных) кароў, даючы ў суткі на галаву 8-10 фун. сена, 3-4 фун. высевак, 4-5 фун. ярнае саломы і пояць вадою. Зімою ялавак няма сэнсу вельмі добра карміць, бо яны жырэюць, малочныя жэлезы ў іх зарастаюць жырам і яны часта застаюцца ад гэтага бязплоднымі.

Нормальна ўзгадаваных цялушак можна прыпушчаць да племяніка ў 20-22 месяцы, меншых і слабейшых не раней 2 год. Раней гэтага ўзросту злучаць ня раіцца, бо ад гэтага каровы бываюць маламалочнымі і недаразьвітымі.

Каб выгадаваць здаровую і трывалую жывёлу, патрэбна даваць ёй болей рухацца на сьвежым паветры, як зімою, так і летам у спецыяльна пабудаваных для гэтага загонах каля аборы, але глядзець пры гэтым, каб не застудзіць скаціну.

---

# Як захаваць на зіму зялёны корм.

*(Сілосаваньне, або практычныя парады).*

Апошнімі часамі шмат кажуць і пішуць аб прыгатаўленьні сілоса, а між тым шмат якія гаспадары, а такасама саўхозы і колектывы пробуюць рабіць закваску сілоса, але гэта ім не ўдаецца, бо сілос выходзіць дрэнны. Ад чаго-ж гэта бывае? Кажуць, што няма спэцыялістых для закладкі сілоса.

Вось тут я і хочу паказаць той спосаб закладкі сілоса, пры якім кожны гаспадар можа быць упэўнены, што прыгатаваны ім сілос будзе добры, як упэўнена кожная гаспадыня, што прыгатаваная ёю

капуста будзе добрая. А прыгатаваньне сілоса крыху падобна да заквашваньня капусты. Псуецца сілос ад таго, што пры ўтаптваньні яго ня ўсё паветра выходзіць, а прысутнасьць паветра і дае магчымасьць жыць там мікробам, ад якіх загнівае сіласованы матар'ял.

Для закладкі сілоса выкапваюць квадратовую ямку любой велічыні. Калі зямля ў яме цьвёрдая, то можна не рабіць у ёй сьценак, а калі мяккая, то сьценкі патрэбны. Іх можна рабіць з дошак, калоў і г. д. Яшчэ лепш сьценкі рабіць з гліны, бо тады ня будзе выходзіць вільгаць.

Яма для сілоса па майму спосабу робіцца так: выкапаўшы яму бяруць 4 жэрдкі даўжэй шырыні ямы на 2 арш., кладуць іх па бакох ямы, пакідаючы прамежак паміж сьценкамі на 4 вярш. Канцы жэрдак прапускаюць па аднаму аршыну ў бакі ямы і так, каб жэрдкі не ляжалі на паверхні зямлі. Пасьля гэтага яма навокал жэрдак абстаўляецца каламі любой таўшчыні. Прамежак паміж каламі і зямлёй набіваецца глінай і ўтаптваецца. Дно ямы таксама робіцца з утоптанай гліны. Зробленая такім спосабам яма для сілоса не выклікае расходаў і не абвальваецца, не забрудняе сілоса, не дае выцякаць вадзе, якая трымаецца ў сілосе і не дапушчае паветра, якое дапамагае множаньню мікробаў, якія і псуюць сілос.

Зрабіўшы такім спосабам яму, можна закладваць сілос. Дзеля гэтага трэба падвезьці к яме матар'ял для сілоса, якім можа быць бацьвіньне гародніны, позны ўкос канюшыны, выкі і інш. траў.

Матар'ял кладуць у яму слоем у 4-5 вярш., сякуць жалезнай вострай рыдлёўкай і ўтаптваюць. Утаптваць трэба так, каб матар'ял пусьціў сок, які-б пакрыў увесь пласт. Такім чынам скончыўшы адзін пласт, накладаюць другі і г. д., пакуль будзе напоўнена ўся яма. Пры гэтым кожны слой перасыпаюць сольлю, бо тады скаціна есьць сілос ахватней.

Яшчэ лепш, калі ёсьць магчымасьць увесь матар'ял парэзаць у сячкарні. Тады яго лягчэй утаптваць.

Набіваць яму трэба ніжэй верху на 3-4 вярш. Скончыўшы набіўку, яму трэба прыкрыць дошкамі, на якія палажыць гною або зямлі.

Прыгатаваны такім спосабам сілос праз месяц можна даваць скаціне; ён ня псуецца і да самай вясны.

Сел. Т. Апет.

# Вэтэрынарна-санітарныя папячыцельствы і іх праца ў вёсцы.

Абарона сялянскае жывёлы, і асабліва барацьба з заразьлівымі хваробамі, патрабуе ўдзелу самога насельніцтва ў гэтай справе.

Неорганізаванасьць сялянства—самае вялікае ліха вёскі. Яна найчасьцей зьяўляецца прычынай несьвядомых адносін да працы участковага вэтэрынара і часта прыносіць сялянскай гаспадарцы шкоду. Напрыклад, у вёсцы зьявілася на скаціне заразьлівая хвароба «сібірка». Гаспадар двара, дзе зьявілася гэта хвароба, па сваёй несьвядомасьці вывез на выпас жывёлу, якая пала ад «сібіркі». Труп гэты расцягнулі сабакі, дзякуючы чаму і пашыралася зараза. Такіх прыкладаў у жыцьці вёскі ёсьць шмат. Усе яны кажуць аб тым, што сялянства само сабе шкодзіць, не спаўняючы законных распараджэньняў улады і вэтэрынара.

Вэтэрынар толькі тады зможа абараніць сялянскую жывёлу ад хваробы, калі само сялянства будзе дапамагаць яму ў гэтым.

Адным з відаў такой сялянскай самадзейнасьці і зьяўляюцца вэтэрынарна-санітарныя папячыцельствы, якія абіраюцца грамадзянамі на сельскіх сходах ва ўсіх селішчах. Склад вэтэрынарна-санітарных папячыцельстваў, іх правы і абавязкі вызначаюцца асобным палажэньнем, якое выдаецца Наркамземам у разьвіцьцё вэтэрынарнага закону.

Вэтэрынарна-санітарныя папячыцельствы праводзяць меры па абароне с.-г. жывёлы ад розных хвароб і галоўным чынам заразьлівых, а таксама павінны дапамагаць барацьбе з імі, якая на вёсцы вядзецца пад кіраўніцтвам вучастковага вэтэрынара. Апрача таго, яны павінны сачыць за станам здароўя скаціны ў гаспадарках свайго селішча і калі зьявіцца пошасная хвароба, паведамляць аб гэтым вэтэрынара, а пакуль ён прыедзе, то хворую жывёлу адлучыць ад стада.

Яшчэ санітарныя папячыцельствы павінны паклапаціцца, каб у даным селішчы былі могілкі для хаваньня паўшае жывёлы і каб паўшая жывёла толькі там і закапвалася.

Кожны год перад выпушчаньнем на выпас, вэтэрынарна-санітарныя папячыцельствы аглядаюць месцы для вадапою і выгану і калі знойдуць, што яны па свайму стану могуць пашыраць заразу, то робяць захады, каб ня пусьціць туды жывёлу. Таксама яны маюць права ня пушчаць у працягу 2-х тыдняў у агульны гурт і на агульны вадапой купленую жывёлу, калі гаспадар яе ня мае вэтэрынарнага пасьведчаньня аб стане здароўя гэтае жывёлы.

Уся праца вэтэрынарна-санітарнага папячыцельства праводзіцца пад кіраўніцтвам вучастковага вэтэрынара і пры дапамозе мясцовых органаў улады і грамадзкіх організацый вёскі.

Зьяўляючыся абранымі на сельскіх сходах, сябры вэт.-сан. папячыцельстваў павінны пераконваць сялян на сходах, а не прымушаць адміністрацыйным парадкам, бо на гэта яны ня маюць права. І толькі ў выпадку неспаўненьня грамадзянамі ўстаноўленых законам вэтэрынарна-санітарных правіл, вэтсанпапячыцелі паведамляюць аб гэтым сельсавет, які і прыцягвае віноўных грамадзян да адказнасьці.

**М. Іоффэ.**

---

## Паштовая скрынка.

**Г. Шасьцітку.** Артыкул Ваш зьмяшчаем, а ліст перадалі ў рэдакцыю „Сав. Бел.“

**М. Галаўнёву.** Артыкул аб палепшаньні сенажаці ня пойдзе, бо напісан вельмі слаба і няпоўна.

**В. Пашыну.** Артыкул аб сялянах, якія засадзілі лес на сваёй зямлі, скарыстаем пазьней.

**Я. Судакову.** Аб кармавых расьлінах надрукуем.

**Я. Савіцкаму.** Матар‘ялы позна атрымалі. Скарыстаем для наступных нумароў.

**С. Сялюкіну.** Матар‘лы, якія падойдуць, скарыстаем. Матар‘ялы лепш апрацоўвайце.

**Р. Гуржы.** Аб вырабе фруктовага віна будзе ў № 9.

**А. Бярозавіку.** Аб гаспадарцы Папернянскай школы скарыстаем.

**К. Магучаму.** „Як палепшыць вулей-калоду“ будзе ў наступным нумары.

# ЗЯМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Да выданьня Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу.

Народным Камісарыятам Земляробства да чэрвеньскай Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту былі апрацаваны „Асновы Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу“. Зьмест самога Кодэксу будзе залежыць ад тых дырэктыў, якія даны Сэсіяй ЦВК. Сэсія прызнала, што выданьне Кодэксу, які-б рэгуляваў права карыстаньня водамі, зьяўляецца сваячасным і неабходным.

Рэспубліка наша багата водным абшарамі. Яна мае некалькі судаходных і сплаўных рэк, шмат азёр, малых рэчак, ручаёў і канаў. Падглеба БССР мае многа вады, якая ў шмат якіх месцах затрымоўваецца і на паверхні зямлі, утвараючы балота. Забалочана ў нас каля 16 проц. усёй плошчы.

Вада служыць для здавальненьня розных патрэб чалавека. Колькасьць і якасьць вады, якая знаходзіцца ў данай мясцовасьці, не заўсёды адпавядае разьмеру і характару ўсіх гэтых патрэб. Як лішак, так і нястача вады вымагаюць рэгуляваньня права карыстаньня вадою.

*З павялічэньнем насельніцтва і разьвіцьцём экономічнага жыцьця краю пашыраецца ўсебаковае выкарыстаньне водных багацьцяў для патрэб земляробства, прамысловасьці і гандлю.* Кожная з гэтых галін экономічнай дзейнасьці чалавека высоўвае ў карыстаньні вадою цэлы шэраг самастойных пытаньняў, ад больш-менш поўнага і правільнага вырашэньня якіх залежыць дабрабыт рэспублікі.

*Сельская гаспадарка* на *першым пляне ставіць пабудаваньне студняў, асабліва пры рассяленьні,* і *асушку балот.*

*Прамысловасьць карыстаецца вадою, як сілаю.* Скарыстаньне вады зьберагае апал, што таксама робіць уплыў на агульныя кліматычныя і глебавыя ўмовы.

*Гандаль зацікаўлены ў шырокім скарыстаньні вады, як найбольш таннага сродку зносін* для сплаву і перавозкі цяжкіх тавараў, для якіх чыгуначны тарыф зьяўляецца высокім.

Урэшце, чыстата вады мае вялікае значэньне з боку санітарнага. У карыстаньні вадою часта інтарэсы сельскай гаспадаркі разыходзяцца з інтарэсамі судаходзтва і сплаву, а патрэбы апошніх—з патрэбамі прамысловасьці, рыбалоўства і санітарыі. Прыватныя інтарэсы прыбярэжных землякарыстацеляў часта разыходзяцца з інтарэсамі грамадзкімі.

Карыстаньне водамі ў паасобных выпадках нормуецца ў нас рознымі законамі і распараджэньнямі. Апошнія не заўсёды ўзгоднены паміж сабою і не ўвязаны з зямельным законадаўствам, прычым цэлыя галіны воднай гаспадаркі пакуль што зусім ня рэгулююцца законам.

Гэта выклікае патрэбу выданьня агульнага воднага закону. Трэба аб'яднаць у адным Кодэксе ўсе разьбежныя законы і распараджэньні, якія рэгулююць права карыстаньня водамі ў розных галінах народнае гаспадаркі. У гэтым Кодэксе павінны быць увязаны справы мэліорацыі, сплаву, судаходзтва, рыбалоўства, пабудовы прудоў, млыноў і інш.

Па такому шляху пашлі навейшыя замежныя законадаўствы. У Прусії яшчэ ў 1893 г. быў апрацован агульны водны закон, які яднае важнейшыя галіны воднага права. Такі-ж характар мае закон аб кіраваньні водамі, выданы ў 1898 г. ў Францыі.

І ў нас у аснову будучага Кодэксу павінна быць паложана арганізацыя правільнай воднай гаспадаркі, якою-б кіраваў па пляну адзін орган з мэтаю ўсебаковага і продукцыйнага скарыстаньня водных багацьцяў рэспублікі.

Азначаны Кодэкс трэба папоўніць новымі нормамі. З гэтага боку асабліва значэньне для нас будуць мець правілы, якія рэгулююць асушку балот. У БССР ёсьць 1 міл. 600 тыс. дзес. балот. Пакуль што яны даюць вельмі малы даход. Асушка гэтых балот дапаможа падняцьцю сельскай гаспадаркі і дасьць новы фонд для надзяленьня зямлёю беззямельных.

Асушка балот хоць і пашыраецца ў нас з кожным годам, але ня так шпарка. Часта гэтаму перашкаджае тое, што паасобныя землякарыстацелі, або зямельныя аб'яднаньні ня хочуць прымаць удзел у мэліорацыйнай працы і прапушчаць ваду праз свае землі.

Тут патрэбен закон, які-б рэгуляваў узаемаадносіны паміж дзяржавай і насельніцтвам, а таксама паміж паасобнымі землякарыстацелямі ў справе асушкі балот і выпаўненьні імі мэліорацый.

Такім чынам, Кодэкс, які рэгулюе права карыстаньня водамі ў інтэрэсах народнай гаспадаркі, будзе выданы на падставе такіх палажэньняў:

1. *Усе воды рэспублікі складаюць адну дзяржаўную гаспадарку.*

2. *Агульнае загадваньне гэтай* гаспадаркай і накіраваньне ў законадаўчыя ўстановы проэктаў водных законаў належыць аднаму органу.

3. Цякучыя воды і азёры знаходзяцца ў агульным карыстаньні.

4. Карыстаньне гэта павінна праводзіцца перш за ўсё ў інтарэсах соцыяльных, г. зн. пры разьбежнасьці прыватнага і грамадзкага інтарэсу перавага аддаецца апошняму.

5. Стаячыя воды, асабліва студні, сажалкі і інш. перадаюцца ў працоўнае карыстаньне. Абмежаваньне яго ў інтарэсах грамадзкіх дапушчаецца толькі за плату.

6. Правы прыбярэжных землякарыстацеляў на ваду, рэчышчы і берагі, а таксама абавязкі іх па ахове вод ад забрудненьня і абмяленьня павінны быць дакладна азначаны.

7. У даным законе павінны быць паказаны ўмовы, захаваньне якіх патрэбна для пабудаваньня прудоў, млыноў і інш., а таксама для забясьпечаньня судаходзтва і сплаву ад перашкод.

8. Павінны быць створаны лягчэйшыя ўмовы пракопкі канаў на ўсіх землях, у чым-бы карыстаньні яны не знаходзіліся, калі гэтыя працы маюць грамадзкае значэньне.

9. Дазваляецца прымусовае ўключэньне меншасьці землякарыстацеляў у лік членаў мэліорацыйнага таварыства.

10. Стваряюцца прававыя ўмовы, якія забясьпечваюць пэўнае карыстаньне мэліорацыйнымі ўгодзьдзямі.

11. Даюцца ільготы па крэдыту і сельска-гаспадарчаму падатку з мэтаю шырокага разьвіцьця мэліорацыі.

12. Палажэньні Воднага Кодэксу ўзгадняюцца з Кодэксам зямельным.

13. Усе водна-мэліорацыйныя спрэчкі на разгляд перадаюцца зямельным камісіям.

**Аўг. Вішнеўскі.**

# Разьдзел гаспадарак павінен разьбірацца ў зямельных камісіях.

*(На артыкул Аўг. Вішнеўскага „Што судзіць нарсуду, а што Земкамісіі“ „Плуг“ № 6).*

У 6 нумары «Плуга» быў зьмешчаны артыкул тав. Вішнеўскага А., дзе гаварылася аб тым, што судзіць народнаму суду і што зямельным камісіям. Калі паглядзець у сучасны момант, дык нашы народныя суды перагружаны разборам спраў аб маемасьці, будынках, інвэнтару, жывёле і інш.

Калі прыглядзецца да такіх судоў, дык зразу ўбачыш, што тут разьбіраецца або моцная гаспадарка, якая падыходзіць пад абрэзку пры земляўпарадкаваньні; або дробная гаспадарка, членам якой не хапае зямлі да працоўнай нормы. Бываюць і такія выпадкі, што члены двара дзеляцца паміж сабою ня дзеля таго, каб абараніцца ад абрэзкі, ці атрымаць зямлі, а проста з-за таго, што жывучы разам яны ня ладзяць. Гаспадарка д гэтага ўрэшце зусім гіне, не даючы ніякай карысьці дзяржаве.

Калі-ж народны суд разьбірае тую ці іншую гаспадарку, то ён гэтым самым нарушае пастанову Саўнаркому, аб спыненьні разьдзелаў гаспадарак. На гэта можна паказаць шмат прыкладаў, вось я адзін прывду. Селянін мае 18 дзесяцін зямлі на 3 працоўных адзінкі, знача гаспадарка падыходзіць пад абрэзку; гаспадар з панятымі і сельсаветам фактычна дзеліць усю маемасьць, якая маецца ў гаспадарцы і састаўляе акт, які знаходзіцца ў справе сельсавету, а копія выдаецца на рукі членам двара, якія ўжо падзялілі ўсю маемасьць.

Тады гэтыя маладыя гаспадары, якія падзялілі маемасьць, падаюць у зямельны аддзел, каб апошні разьдзяліў і зямлю. Зямельная камісія спыняе разьдзел зямлі але-ж гэтым ня спыняе фактычнага разьдзелу і ў канцы канцоў, члены двара выробляюць зямлю празпалосна, або падзяліўшы яе на хутары.

Калі-ж на гаспадарку прыходзіць акладны ліст па падатку, яны зноў мяркуюць каму і колькі плаціць, такім чынам на факце гаспадарка зусім разьдзелена і пакуль падыйдзе абрэзка, ужо гэтым членам ранейшай сям'і прыходзіцца дабаўляць да працоўнай нормы; а абразаць у іх нечага, бо гаспадарка ў кожнага самастойная; будынкі, жывёла і інш. інвэнтар кожным членам прыпасаецца толькі дзеля сябе.

Далей, калі маемасьць гаспадаркі была разгледжана ў народным суду і разьмеркавана паміж членамі двара, дык гэтыя члены (калі гаспадарка падыходзіць пад абрэзку) і бяз сельсаветаў і панятых дзеляць зямлю і тады іх самастойныя гаспадаркі, як устарэлыя і бяз лішку зямлі застаюцца не абрэзанымі.

Тут разьмеркаваньне маемасьці неабходна рабіць зямельнай камісіі, якой таксама трэба глядзець на моц гаспадаркі па маемасьці і яе драбімасьці.

Такім чынам, калі гаспадарка падлягае абрэзцы, дык зямельная камісія можа разьдзяліць маемасьць, але не зямлю, аб чым даводзіць да ведама ніжэйшыя органы, каб тыя не дапушчалі разьдзелу, або не завяралі акты разьдзелу.

Народны суд трэба каб не рабіў разьдзелы маемасьці той ці іншай гаспадаркі, бо калі ён будзе рабіць гэта, дык немагчыма будзе правільна правесьці земляўпарадкаваньне.

Шмат гаспадарак дзеляцца з-за таго, што члены сям'і ня могуць жыць сумесна і тады зьвяртаюцца ў народны суд з просьбай аб разьдзеле і толькі тады, калі гэтая гаспадарка не падыходзіць пад абрэзку. Калі-ж гаспадарка абразаецца, дык Райвыканкомы ці зямельныя камісіі павінны даручыць ніжэйшым установам улады спыняць спрэчкі і няўрадзіцы ў гэтай гаспадарцы.

З усяго відна, што ніяк не магчыма народнаму суду разьбіраць справы аб разьдзеле маемасьці гаспадарак, бо гэтым самым яны павялічваюць лік беззямельных, ці захоўваюць гаспадарку ад абрэзкі.

Трэба выказаць свае думкі па гэтаму пытаньню, бо ад яго залежыць правядзеньне земляўпарадкаваньня і зьнішчэньне беззямельля.

Сел. **С. Сялюкін.**

---

# Разьдзел гаспадарак.

*(Ліст у рэдакцыю).*

Прашу рэдакцыю наступнае зьмесьціць:

У часопісі «Плуг» № 6 зьмешчаны артыкул тав. Вішнеўскага «Што трэба судзіць нарсуду, а што зямельнай камісіі». Лічу, што погляд тав. Вішнеўскага зьяўляецца правільным, бо зямельныя органы, асабліва райземаддзелы, ня могуць падлічыць усіх тых разьдзелаў, якія могуць быць у тым ці іншым раёне. Разьдзельныя запісі, якія зарэгістраваны ўстаноўленым парадкам, у райвыканкомах запісваюцца ў кнізе дагавораў, а адсюль і можна ў любы час падлічыць лік. Што датычыць разьдзелаў сялянскіх двароў, якія бываюць згодна пастановы Народных судоў, то іх і ніколі не магчыма падлічыць, бо Нарсуды не паведамляюць земорганы аб утварыўшыхся разьдзелах маемасьці двара.

Грамадзяне-ж атрымаўшы копію пастановы Нарсуда аб разьдзеле маемасьці, зьвяртаюцца ў земорганы, аб надзяленьні іх зямлёй, як бяззямельных. Адсюль вынік, што якія-б ні былі запфонды ці абрэзкі, то іх ня хопіць надзяліць масавыя разьдзелы паасобных двароў і нам не прыдзецца па пляну правесьці правільнае землянадзяленьне і забясьпечыць беззямельных і малазямельных грамадзян зямлёй.

Згодна апошняга распараджэньня Саўнаркому Беларусі разьдзелы двароў спынены, але разьдзелы маемасьці двара ў Нарсудах ня спыняюцца, а яшчэ і часьцей бываюць. Пасьля разьдзелу маемасьці, двары патрабуюць ужо ў райземаддзелах надзяліць іх у парадку 9 і 10 арт. Зямельнага Кодэкса Беларусі.

Каб у далейшым ня было такога масавага драбленьня сялянскіх гаспадарак, па мойму, трэба гэта пытаньне абсудзіць усім райземорганам, як лепш падыйсьці да гэтага пытаньня, каб спыніць і разьдзелы маемасьці двара. Я думаю, трэба было-б аддаць распараджэньне па лініі Наркамюста, каб Нарсуды разьбіралі толькі тыя справы, як паказвае тав. Вішнеўскі, якія не належаць да разьдзелу двара, а толькі іскі к паасобным членам двара па іх асабістай справе. Яшчэ для

больш правільнай працы райземкамісіям трэба мець асобны штат, каб яна выключна працавала па спрэчных зямельных справах і ня была занята другой працай. Да гэтага часу старшыня камісіі, ён-жа загадчык земаддзелам і яшчэ мае шмат іншай працы.

**В. Паўлоўскі.**

# Ліст селяніна Я. Савіцкага.

(*У парадку абгаворваньня*).

Пытаньне, ўзьнятае тав. Вішнеўскім у «Плузе» № 6, неабходна як мага хутчэй вырашыць. Я цалком трымаюся погляду аўтара. І запраўды, нарсуды часта дзеляць маемасьць жывую і мёртвую, ня ведаючы ці ёсьць у старон адпаведная колькасьць зямлі, каб на ёй весьці гаспадарку. Такіх беззямельных мне даводзілася сустракаць шмат; яны прыходзяць з паперкай у адпаведную ўстанову аб надзяленьні зямлёю, як беззямельныя. Калі прыгледзішся, хто гэты «беззямельны», дык аказваецца, што ён не паладзіў з бацькам і падаў заяву ў нарсуд аб выдзеле яму маемасьці. Суд гэту справу разглядае і выдае яму частку маемасьці. Калі ёсьць запасны фонд зямлі, дык такія «беззямельныя» хутка атрымоўваюць пасёлак. Калі-ж запфонду няма, то яны хадайнічаюць дарэмна і толькі адчуваюць нездаволенасьць, прадаюць сваю маемасьць, едуць на Донбас у шахты ці застаюцца поўным пролетарыем, калі месца для працы не знаходзяць.

Выпадкаў такіх шмат, а калі ўзяць тыя гаспадаркі, якім неабходна драбіцца з-за чыста сямейных абставін, то такім гаспадаркам я-б раіў прадстаўляць пасьведчаньне ад камітэту ўзаемадапамогі аб неабходнасьці разьдзелу. Падкрэсьліваю, што пасьведчаньні могуць быць выданы толькі тым гаспадаркам, якім можна дзяліцца згодна Зямельнага Кодэксу, а часткаю і тым, у паселішчы якіх ёсьць запасны фонд для надзяленьня гаспадаркі зямлёю.

Лепш было-б справы аб разьдзеле маемасьці, жывога і мёртвага інвэнтару перадаваць зямельным органам—райземкамісіям. Такім парадкам мы маглі-б урэгуляваць землякарыстаньне і спыніць драбленьне тых гаспадарак, якія сваім драбленьнем шкодна адбіваюцца на ўсёй народнай гаспадарцы [1]).

**М. Савіцкі.**

(В. Шмакі, Чачэвіцкага раёну, Магілеўшчына).

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

*Пытаньне 33.* Каму належаць штучныя і натуральныя насаджэньні, якія знаходзяцца на адрэзанай ад вялікае гаспадаркі зямлі — старой гаспадарцы ці надзеленай з абрэзкаў (Бабруйская акрземкамісія).

*Адказ.* Дрэвы і кусты разам з зямлёй пераходзяць ў распараджэньне надзеленай гаспадаркі. Толькі за штучныя насаджэньні абразаемая гаспадарка можа атрымаць з надзяляемае адпаведную ўзнагароду. Разьмер яе павінен быць вызначан проэктам па земляўпарадкаваньню.

*Пытаньне 34.* Ці карыстаецца парабак, які даўно жыве ў сялянскай гаспадарцы, правам на маемасьць двара?

*Адказ.* Не карыстаецца, бо за сваю працу ў гаспадарцы парабак атрымоўвае плату па ўгавору.

[1]) Далейшае абгаварваньне пытаньня „Што судзіць нарсуду і што земкамісіі“ спыняецца, бо пытаньне высьветлена. **(Рэд.)**

*Пытаньне 35.* Ці даволі згоды аднаго гаспадара на прыём у двор новага члена?

*Адказ.* Для павялічэньня складу двара, шляхам прыёму ў яго новага члена, патрэбна згода ўсіх поўнапраўных членаў двара.

*Пытаньне 36.* Як афармляецца прыём у склад двара новага члена?

*Адказ.* Афармленьне гэтае праводзіцца; звычайна, асобным угаворам, які запісваецца зямельным сталом Райвыканкому ў агульную кнігу ўгавораў.

*Пытаньне 37.* Якім мытам аплачваецца ўгавор аб прыёме ў двор новага члена?

*Адказ.* Угавор аб прыёме ў сялянскі двор новага члена не аплачваецца ніякім мытам.

*Пытаньне 38.* Ці падлягаюць рэгістрацыі ў Райвыканкоме дабрахвотныя ўгаворы аб разьдзеле маемасьці двара без зямлі?

*Адказ.* Па жаданьню членаў двара, які зьяўляецца недрабімым, угаворы аб разьдзеле агульнай маемасьці і двара без зямлі могуць рэгістравацца зямельным сталом Райвыканкому і цяпер, калі рэгістрацыя разьдзелаў зямлі часова спынена.

*Пытаньне 39.* У якім парадку трэба праводзіць разьмеркаваньне запаснага фонду паміж беззямельных грамадзян (Мсьціслаўскі Райвыканком).

*Адказ.* Надзяленьне грамадзян зямлёю праводзіцца толькі ў парадку земляўпарадкаваньня, прычым, калі разьмяркоўваецца запасная зямля сярод цэлага аб'яднаньня, праводзіцца земляўпарадкавацелем перш падрыхтоўка справы, а затым выкананьне. Калі-ж адводзіцца зямля аддзельнаму двару, то праца гэта спаўняецца сельсаветам у парадку ўпрошчанага земляўпарадкаваньня, пры якім час падрыхтоўкі супадае з часам выкананьня.

*Пытаньне 40.* Як павінна праводзіцца дапрысяленьне новых двароў у аб'яднаньне?

*Адказ.* Дапрысяленьне ў аб'яднаньне новых двароў можа быць праведзена зямельнымі органамі толькі пасьля абсьледаваньня і прызнаньня ва ўстаноўленым парадку (пункт „б" арт. 149 Зямельн. Кодэксу), што аб'яднаньне мае лішкі зямлі. Да такога прызнаньня, ўваходзячая ў склад зямель аб'яднаньня, запасная зямля можа быць адведзена зямельнымі органамі толькі членам таго-ж аб'яднаньня, бо за апошнім зямля гэта замацована арт. 124 Зямельнага Кодэксу.

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## 2-х тыднёвыя мэліорацыйныя курсы ў Бабруйшчыне.

1 міл. 650 тыс. дзес.—гэта тая плошча, якая знаходзіцца ў Беларусі пад балотамі. Яшчэ да вайны сялянства распачало працу па іх асушцы, але вайна 1914 г. перашкодзіла гэтаму. У сучасны момант, калі Савецкая ўлада ўскалыхнула сялянства, гэта праца пачала ажываць. За гэта кажа лічба 500 мэліорацыйных таварыстваў, якія раскінуты па Беларусі.

*Ініцыятыва па ўтварэньню гэтых таварыстваў* у большасьці выпадкаў належыць актыву вёскі. Але гэтаму актыву, яшчэ мала сьвядомаму ў справе асушкі і распрацоўкі балот, надта цяжка весьці за сабой цёмнае сялянства, якое з недаверрам глядзіць на гэта.



I Усебеларускія мэліорацыйныя курсы для сялян.

На дапамогу вясковаму актыву пашоў НКЗем, утварыўшы ў ліпні м-цы г. г. двухтыднёвыя мэліорацыйныя курсы на 30 чал. З розных куткоў Беларусі зьехаліся слухачы ў Чырвона-Бярэжскі с.-г. тэхнікум, Бабруйскае акругі. З 5 ліпня курсы распачалі працу. Надта цяжка было выкладчыкам працаваць, бо праграма была вялікая, а слухачы ў большасьці выпадкаў з ніжэйшай адукацыяй. Але хлопцы з стараннасьцю ўзяліся за працу і прашлі *лугаводзтва, асушку балот, культуру балот; працавалі з машынамі—сяўнікам, бараной, плугам і іншае.*

На гэту працу мала было 2-х тыдняў і курсы прышлося расьцягнуць на месяц, хоць і цяжка было са сродкамі. На харчы НКЗемам было асыгнавана па 1 руб. ў дзень на слухача па разьліку на 2 тydні, але слухачы згадзіліся харчавацца на 55 кап. у дзень, каб толькі працягнуць курсы. Так было і зроблена.

Вучыліся ня толькі па кнігах, але працавалі і практычна. Былі зроблены 3 экскурсіі: *у Кастрычнікавае мэліорацыйнае таварыства (Бабруйская акр.), дзе аралі* балотным плугам, капалі канавы ўсякіх сыстэм і працавалі з нівэлірам; *пабывалі на Забалацкай балотнай гаспадарцы (Рагачоў).* Там на практыцы пазнаёміліся з культурай балот і пасевамі с.-г. расьлін на іх. Асабліва зьдзівіла слухачоў добрая гародніна на балоце, каноплі, бульба. *Пабывалі і на вядомай Менскай балотнай станцыі.* Тут ужо хлопцы канчаткова ўпэўніліся, што на балоце растуць таксама ўсе расьліны, як і на мінэральнай глебе, а ў некаторых выпадках нават яшчэ і лепш. Убачылі, як праводзяць канавы і розныя дранажы. *Не абмінулі і с.-г. музэй* у Менску, дзе бачылі культурныя рэчы пчалярства і жывёлагадоўлі.

*Закончыліся курсы 29 ліпеня.* Пры выпуску прысутнічалі кіраўнікі мэліорацыйнага аддзелу НКЗ, якія адзначылі далейшыя заданьні скончыўшых: *першае—упэўніць сялянств і паказаць на вопытных дзялянках, што на балоце таксама растуць усякія расьліны; другое—дапамагаць сялянству зваліць цяжкую і марудную працу ў сельскай гаспадарцы на жалезныя плечы машыны, якія будуць на кожным пракатным пункце.*

Ад імя слухачоў шчырая падзяка загадчыку курсаў т. Сьвярчкову і ўсім выкладчыкам за сумленыя адносіны да працы і ўважлівыя да слухачоў.

**Міх. Тарасенка.** *(Селянін—слухач курсаў).*

---

# Дасягненьне ў працы Дзераўцоўска-Паплаўскага мэліорацыйнага т-ва.

*(Асіповіцкі раён).*

На працягу трох год праводзіць працу Дзераўцоўска-Паплаўскае мэліорацыйнае т-ва па асушцы балот, шляхам каналізацыі і закладаньня паказальных вучасткаў.

Сялянства ў пачатку працы зусім ня думала аб тых выніках, якія прынесла ім мэліорацыя за гэты год, а толькі хацела асушыць тую сенажаць, якая галоўным чынам цярпела ад непатрэбнай вільгаці і амаль не давала ніякай карысьці сялянству.

У гэтым годзе Бабруйскі акр. Земаддзел заклаў два паказальных вучасткі на плошчы 1,5 дзесяціны. З АкрЗА была дастаўлена чылійская соль і насеньне аўса.

Але гэта ня цікавіла сялянства. Яно неахвотна ішло распрацоўваць балота, думаючы, што тут ня будзе ніякай карысьці.

Але-ж праз нажым, з боку с.-г. савету, вёска Рэпішча каля канавы т-ва вырабіла на балоце каля чатырох з паловаю дзесяцін пад

пахаць. Падсеялі чылійскую салетру. Вядома, прышлося скарыстаць усе маючыяся машыны, як талеркавую барану, культыватар-драпач, барану Рандаля і іншыя. Засеялі авёс, залажылі вучасткі лёну, канапель, турнэпсу, выкі, сэрадэлі, цыбулі, гуркоў і г. д.

Як-жа ўсё гэта расьце?

Авёс усходы даў добрыя. Мясьцінамі ад вельмі тлустай глебы пачаў вылягаць. Цікава тое, што яшчэ ні разу сялянства ня бачыла такіх усходаў і такога добрага аўса, як на паказальным вучастку.

Лён таксама пашоў расьці добра, але потым вылег.

Выка мясьцінамі добрая, а дзе-ні-дзе і горшая ў зьвязку з тым, што некаторыя сяляне не зусім добра павыкарчоўвалі свае вучасткі.

Канаплі ў гэтым годзе можна сказаць дрэнныя.

Гародныя расьліны растуць добра, галоўным чынам капуста.

Як відаць, адзнакі працы сялянства ў мэліорацыі занадта добрыя і значныя.

У зьвязку з дасягненьнямі, на паказальных вучастках значна павялічыўся лік сяброў т-ва.

Да гэтага часу т-ва налічвае 550 сяброў і пракапала канаў на працягу 25 вёрст.

**С. Комлік.**

---

# Дзедаўскае мэліорацыйнае таварыства.

(*Межанскі раён, Віцебшчына*).

Дзедаўскае мэліорацыйнае таварыства організавалася ў 1924 г. Такое т-ва вельмі неабходна ў першую чаргу сялянам вёсак Шаламова, далей Задрачча, Лёхава, Белай Балотніцы і Чорнай Балотніцы. Каля гэтых вёсак на працягу некалькі дзясяткаў вёрст цягнецца Дзедаўскае балота (адсюль і назва таварыства).

Па пачыну саміх сялян вёскі Шаламова (там балота прыносіць найбольш шкоды) было організавана мэліорацыйнае таварыства. Праўда, да гэтага часу праца таварыства яшчэ ня значна разгарнулася: усяго пракапана 380 сажн. канавы, але сяляне вельмі хочуць разгарнуць гэту працу шырэй, каб яна ахапіла ўвесь раён.

Сяброў таварыства шмат; амаль усе сяляне зацікаўленых вёсак увайшлі пайшчыкамі ў Дзедаўскае таварыства.

Дзедаўскае балота дасьць сялянам шмат торфу, бо амаль ня ўсё яно зьяўляецца адналітым тарфянікам. Торф гэты пойдзе на апал і на подсьціл для жывёлы.

Ня менш торфу мае і другое балота «Сабалевец», якое таксама займае каля 750 дзес. і не дае сялянам вёсак Лёхава, Немцава, Сутолкі і Каханова ніякае карысьці, а толькі робіць шкоду. Часта сяляне цягаюць з балота коняй, кароў, якія ў ім дужа вязнуць.

З асушкаю гэтых балот—Дзедаўскага і «Сабалеўца»—сяляне будуць забясьпечаны сенам, хлебам, выпасам, апалам і подсьцілам, а таксама будуць мець вялікую карысьць ад торфу, як угнаеньня.

Сваю працу сяляне ўкладваюць ахвотна, толькі трэба, каб дзяржаўныя ўстановы пасаблялі ім і далей у гэтай карыснай справе.

Селянін **С. Сялюкін.**

---

# Патрэбна ўвязка плянаў працы па агропрапагандзе.

Разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі будзе шпарка ісьці тады, калі наша сялянства будзе досыць асьвядомлена у розных агрономічных ведах. Адсюль праца па абучэньню сялянскіх мас сельскай гаспадарцы, зьяўляецца галоўнай працай ня толькі Земорганаў, але і ўсіх устаноў і організацый. Лёзунг партыі і Савецкай улады «Усе на барацьбу з сельска-гаспадарчай няпісьменнасьцю нашага селяніна» павінен быць ня толькі на паперы, але і праведзен у жыцьцё. Але ў тым і бяда, што праца па ліквідацыі сельска-гаспадар. няпісьменнасьці насельніцтва вельмі туга ідзе; апрача таго не маючы падрыхтаваных да гэтай працы людзей, праца па агропрапагандзе часта бывае няправільнай і гэтым перашкаджае галоўнай працы па падняцьцю сельскай гаспадаркі, якая праводзіцца зямельнымі органамі.

І сапраўды, хто толькі ў раёнах не займаецца пытаньнем агропрапаганды? Заглянуўшы ў любы раён можна бачыць, як Райзо і Апо, і політасьвет, і Камсамол, і Аб'днаньні Авіохіма, і Сельска-гаспадарчыя гурткі, і хаты-чытальні—усе яны хочуць навучыць селяніна, усе пішуць пляны, але правесьці іх у жыцьцё ня кожная організацыя, ня маючы ў сябе спэцыялістага, ня можа. І вось тут яны ўсе зьвяртаюцца да агранома. Хата-чытальня піша: «Дзякуючы таму-та і таму-та... просім прыехаць да нас і прачытаць лекцыю на тэму», Камсамол піша: «Прапануецца Вам прачытаць чарговую лекцыю па сельскай гаспадарцы ў такой та ячэйцы»; Райком піша: «З такога та часу адчыняецца шасьцітыднёвая школа перадвіжка; Вам трэба прачытаць 30 лекцый па сельскай гаспадарцы»; Сельсавет таксама не адстае і прапануе агроному паехаць у такую-та вёску і прачытаць лекцыю па сельскай гаспадарцы. А ў агронома ў гэты час праходзяць месячныя сельска-гаспадарчыя курсы. Атрымаўшы так многа просьбаў і прыказаньняў, аграном сам ня ведае што яму рабіць; кінуць свае курсы—будзе ня выканана плянавае заданьне Земаддзела; не выканаць усіх гэтых прапаноў і прыказаньняў—пасыплюцца жалабы, што агроном нядзейны, што агроном ня хоча працаваць і г. д.

У такіх выпадках агроном і курсы праводзіць і стараецца выканаць усе прыказаньні і ў гэтым разе ні аднаго, ні другога ён зрабіць ня можа.

Так, вядома, працаваць нельга. Кожны павінен разумець, што такая праца ня дасьць добрых вынікаў. Дзеля таго, каб праца розных організацый па агропрапагандзе магла даць добрыя вынікі, трэба яе ўвязаць; трэба дабіцца таго, каб у раёнах быў адзін агульны плян працы па агропрапагандзе. Дзеля гэтага трэба ў пачатку года на асеньніх Сэсіях Сельска-гаспадарчых Саветаў, усе пляны розных організацый па агропрапагандзе, Сельска-гаспадарчым Саветам добра прапрацаваць і на падставе іх утварыць адзін агульны плян працы па пашырэньню сельска-гаспадарчых ведаў у раёне, які ў далейшым павінен праводзіцца ў жыцьцё ўсімі культурнымі сіламі раёна, пры непасрэдным удзеле і агрономаў.

**П. Гавака.**

## Як пачаў гаспадарыць селянін Янка Судак.

(*Хут. Лебядзёўка, Кармянскага раёну, Магілеўшчына*).

Праслужыўшы больш 3-х год у Чырвонай арміі, у сьнежні 1921 г. я быў звольнены ў бязтэрміновы вотпуск. Як ня меўшы ні зямлі, ні хаты, ні каня і каровы, я наняў сабе кватэру і пачаў шыць абуцьцё на кавалак хлеба. А тут яшчэ да майго прыбыцьця са службы былі запроэктаваны на быўшай панскай зямлі пасёлкі і хутары. З усяе зямлі застаўся кавалачак у 3 дзес., які ніхто не хацеў браць: ён быў маленькі і зямля самая дрэнная. Я падумаў, падумаў і падаў заяву на гэты кавалак. Калі сталі зацьвярджаць зямлю, то ў маіх суседзяў знайшлі лішак; на маю долю знашлося яшчэ 1 з пал. дзес. і мне зацьвердзілі 4 з пал. дзес. Але суседзі аддалі мне толькі 1 дзес., а за поў. дзес. трэба яшчэ судзіцца.

Атрымаўшы гэту зямлю я пачаў яе выраблящь і капаць карчы, церабіць кусты і зрэзваць куп'ё. Цяпер я прывёў яе да ладу, хоць невялікая частка яшчэ патрабуе мэліорацыі.

*Як-жа я прывёў да ладу зямлю?* Перш там, дзе я вырабіў поле пад пахаць, зямля была вельмі буграватая, а бугры вельмі вялікія. Калі я стаў скародзіць гэтыя бугры, то сьцягнуўся ўвесь вораны пласт, а застаўся толькі жоўты пясок, на якім нічога не расло. Тады я на гэтыя плямы палажыў торф папалам з гноем. У другі раз, калі я клаў ужо гной па ўсёй плошчы, то на гэтых месцах гною клаў больш, чым усюды. Цяпер мая зямля родзіць роўна ўсюды.

На сенажаці таксама павыкапваў карчы, лазу і куп'ё і патрохі паскародзіў (скародзіў мала таму, што працаваў чужым канём, а свайго яшчэ ня меў). Пры гэтым падсеяў цімафейкі і той падцярухі, якая застаецца ад сена. Вясной я яе зьбіраю ў пуні, вею і расьсяваю па сенажаці.

З самага пачатку сваей працы на зямлі, я стаў сеяць розныя расьліны, каб даведацца, якія лепш растуць. Урэшце я абраў сабе чатырохпалёвы севазварот з такім чаргаваньнем расьлін: 1) *выкавы папар з палавінным угнаеньнем*, 2) *па выкаваму папару* кладу з восені яшчэ палавіну ўгнаеньня і *вясной сею кораньплоды*, 3) *авёс* і 4) *бульба* з палавінным угнаеньнем.

Усё расьце вельмі добра і няма сарнякоў. Ураджай мінулага году па разьліку на дзесяціну быў вось які: выкавага сена (ня важыў, але прыблізна) пудоў 300-350; кораньплодаў 3.680 пуд.; бульбы 1840 пуд., аўса 140 пуд.

Фактычна я стаў гаспадарыць з вясны 1922 г. і гаспадарку заводзіў зусім з нічога, а да гэтага часу я маю:

Новую хату коштам 350 руб.
Хлеў . . . 300 „
Павець . . . 40 „
Сьвіран . . . 60 „
Пограб . . . 20 „

Каня . . . 100 р. (але за яго яшчэ павінен с.-г. т-ву 65 р. *)
Кароў дзьве **) . 140 „

Ацэнку я бяру з сваёй страхоўкі (поліса) па добрахвотнаму страхаваньню.

Сёлета ў мяне было засеяна чверць дзес. выкі, чверць дзес. кораньплодаў і столькі-ж бульбы і аўса, а рэшта зямлі засеяна просам і мешанінай аўса з гарохам.

Да гэтага часу я не врабляў больш пахаці толькі затым, што ня меў запасаў угнаеньня і ня было свайго каня. Цяпер-жа з прыбыткам жывёлы павялічылася і колькасьць гною і я паступова пашыраю плошчу пахаці.

За такі кароткі час значна адрозьніцца ад сваіх суседзяў—старых гаспадароў я яшчэ ня мог, але хоць трохі адрозьніўся. Першае, я сею кораньплоды, што стала для маіх суседзяў прыкладам і яны пачалі патрошкі сеяць. Прыходзяць да мяне і пытаюцца, як сеяць і даглядаць кораньплоды. Вядома, я ім даю парады. Другое, я кармлю скаціну па нормах і суседзі дзівуюцца, што мае каровы выходзяць з зімы добрымі і зімой даюць больш малака***). А вось яшчэ чым я яскрава адрозьніўся, хоць гэта і не да гаспадаркі належыць, але напішу і гэта. Я ў царкву не хаджу, з папом ня дружу, багоў у хаце ня маю і сваім дзецям акцябрыны спраўляю.

Большага ад мяне не патрабуйце, бо за такі кароткі час і гэта зрабіць было вельмі цяжка.

Цяпер у мяне зусім новы плян весьці гаспадарку. Дзякуючы часопісі „Плуг“ мне хутчэй удалося атрымаць кавалак зямлі (прырэзку); цяпер усяго маю 14 дзес. Я прыняў да сябе яшчэ аднаго чалавека, які быў зусім бедны. Гэты чалавек пчаляр і нядаўна скончыў курсы па пчалярству. У мяне-ж ёсьць тры рамовых вульлі з пчоламі і некалькі парожных вульлёў. Мы будзем гаспадарыць колектыўна. Думаем далей завесьці новы палявы севазварот з клубне і кораньплодамі, з засевам траў. Каля дарогі выдзелім вопытна-паказальнае поле.

У сувязі з атрыманьнем гэтай зямлі (прырэзкі) прыяжджаў да нас райаграном на абсьледваньне гаспадаркі. Ён зрабіў апісаньне маемасьці і прызнаў нашу гаспадарку передавой з малочным ухілам.

Вось гэта апісаньне нашай гаспадаркі і мой плян наперад.

Сел. Я. Судак.

---

## Гаспадарка селяніна Яна Рэйзьнека.

*(Межанскі раён, Руднянскі с/с, Віцебшчына).*

Ян Рэйзьнек мае 18 дзес. зямлі, з якой 7 дзес. лесу, 6 дзес. пахаці і 5 сенажаці. Два гады назад, Рэйзьнек перабудаваў сваю гаспадарку па новаму і цяпер яе можна лічыць узорнай у раёне.

Зямля Рэйзьнека зьяўляецца выразным суглінкам і толькі дзе-нідзе перамешваецца з пяском, аднак пяску мала.

---

*) Тэрмін доўгу т-ву канчаецца ў кастрычніку мес. г.г.
**) Каровы хоць і невялікія, але добра разгадаваны.
***) Аб кармленьні кароў па нормах гл. мой арт. у № 6 „Плуга“. „Як дрэнную карову я зрабіў даходнай і малочнай“.

Шмат працы патрэбна было, каб завесьці культурную гаспадарку, але Рэйзьнек працаваў не пакладаючы рук. Спачатку Рэйзьнек ня ведаў, дзе трэба пасеяць канюшыну, бульбу і інш. Доўга ня удавалася яму завесьці правільны севазварот.

Перш гаспадар зьвярнуў увагу на жывёлагадоўлю. Ён набыў добрай пароды коняй, кароў, авечак і сьвіней і пачаў рабіць досьледы з кармленьнем кароў, сеяць буракі, турнэпс, купляць у горадзе для жывёлы макуху і вотруб'е. Кароў карміў Рэйзьнек так (ня лічачы саломы і сена)

| | | |
|---|---|---|
| буракоў | 20 фун. | на галаву |
| мукі аўсянай | 5 „ | „ |
| макухі каля | 3 „ | „ |

Каровы адразу сталі павялічваць удоі малака і з 3-х кароў гаспадар кожны дзень зьбірае 80-90 фун. малака. Малако Рэйзьнек перапрацоўвае на масла. Выдаенае раніцаю малако ставіцца ў склеп да вечара і затым, разам з атрыманым увечары, пераганяецца на сэпаратары. Сабраўшы, такім чынам, сьмятану, Рэйзьнек падагравае яе да 12° і б'е масла на маслабойцы сыстэмы „133-а“.

Гадавы ўдой малака Рэйзьнек лічыць з аднае каровы ў 200—225 вёдзер. Усяго кароў у сучасны момэнт Рэйзьнек мае тры, аднаго быка і двое цялят. Цялят Рэйзьнек прадае і сялянам па вельмі таннай цане. Коняй у Рэйзьнека пара: кабыла—мэціс, рысака з фінкай і жарабец—мэціс ардэна з фінкай.

У мінулым і сёлетнім годзе да жарабка прыпушчана 24 кабылы.

Сьвіньні ў Рэйзьнека з крывёю ангельскіх; кормяцца яны хлебам, бульбаю і перагонным малаком.

У 1919 г. Ян Рейзьнек завёў шматпольле, дзеля чаго разьбіў усю пахаць на роўныя кавалкі і зразу заняў 1-е поле канюшынай. Цяпер у Рэйзьнека сямёхпалёвы севазварот з такім чаргаваньнем: *1) жыта, 2) канюшына першага году, 3) канюшына другога году, 4) выпас дзеля жывёлы, 5) бульба, 6) ярына, (авёс, ячмень) 7) заняты папар* (выка, выка-аўсяная мешаніна).

Мінэральнымі ўгнаеньнямі Ян Рэйзьнек не карыстаецца, а поле ўгнойвае толькі гноем. Гною ён кладзе каля 4000 пудоў на дзес. Зямля яго дае з дзесяціны 100-120 пудоў жыта, 300-350 п. канюшыны. Жыта Рэйзьнек высявае 8-10 пудоў на дзес. Авёс у яго шацілаўскі „Эхо“ і залаты дождж. Ячмень сеецца двухрадковы, які дае вельмі добры ўраджай. Бульба займае першае месца ў гаспадарцы. Сеецца бульба пасьля канюшыны. Поле вырабляецца параконным плугам і пружыноўкай. Сартоў бульбы у Райзьнека каля шасьці. На першым месцы ў яго стаіць бульба, якая раней усіх пасьпявае, гэта раньні ружовы сорт, або, як завуць сяляне, „скарасьпелка“; з другіх сартоў бульбы ў Рэйзьнека ёсьць „сіні вялікан“ і сілезія.

Лёну Рэйзьнек сее мала, толькі дзеля сваёй патрэбы. Лён у яго—даўгунец.

З машын гаспадарка мае: *жатку, касілку, сячкарню, арфу-сартоўку, сэпаратар*, „Альфа Ловаль“, *параконны плуг* „Фенікс“ *аднаконны плуг, пружыноўка на 12 зубоў, 2 драўляных бараны, і драўляны плуг, асыпнік і лушчыльчік.*

Свае некаторыя машыны Рэйзьнек дае ў карыстаньне сялянам.

Усе гэтыя с.-г. прылады ў Рэйзьнека знаходзяцца ў будынку, дзе ня гніюць і не ржавеюць.

Селянін Ян Рэйзь нек—латыш. Выпісвае сваю газэту на латышскай мове, з якой ён шмат чаго пераняў для сваей гаспадаркі. Таксама маецца невялічкая с.-г. бібліатэчка; газэты ёсьць за некалькі год. Рэйзьнек лічыцца сябрам Гаравецкага с.-г. таварыства, акуратна бывае на сходах і інш.

З сялянамі Рэйзьнек жыве добра, хоць яны і сьмяюцца з яго, што гаспадар сам доіць кароў. Сяляне ідуць да яго за рознымі парадамі, пазыкамі і інш.

Наогул, гаспадарка Рэйзьнека лічыцца культурнай і на выстаўках атрымоўвае прэміі. Летась Ян Рэйзьнек асушыў балота і цяпер мае вялікую карысьць з яго.

Апісаў сел. **С. Сялюкін.**

---

## Гаспадарка селяніна Паўлы Ажгірэя.

*(Пухавіцкі раён, Меншчына.)*

Гаспадарка ня зусім культурная, але і яна паказвае, як апрацоўваць і выраблять глебу і будаваць новую гаспадарку.

П. Ажгірэй цяпер мае 28 г. Паходзіць з вялікае сям'і сяла Блоні; ў сям'і 5 душ, з якіх працаздольных толькі сам да жонка, а трое дзяцей яшчэ малыя. З маленства прыглядаўся, як у культурных гаспадарках выробляецца глеба, гадуецца жывёла, вядзецца сад. У 1921 г. аддзяліўся ад бацькі і атрымаў 2 дзес. ворнае зямлі і $^1/_4$ дзес. сенажаці. На гэтай зямлі пачаў працаваць. Ня гледзячы на малую плошчу зямлі, Ажгірэй вядзе гаспадарку на 4 зьмены. Сее жыта, авёс, канюшыну, лубін, сэрадэлю і бульбу. Трымае адну карову, ад якой мае даволі малака і масла для сваёй сям'і. Суседзі-ж Ажгірэя маюць па 3 каровы, а малака ўволю ня маюць; трымаюць кароў для гною.

Глеба ў Ажгірэя супескавая, але жыта і бульба растуць вельмі добра. Ураджай па разьліку на 1 дзес. 80-90 пуд. зярна. Пасадзіў Ажгірэй і невялікі сад, за якім уважліва наглядае. Налета мяркуе пасадзіць сярод садовых дрэў суніцу.

З будынку мае новую хату, сьвіран, хлеў і гумно.

Як быў у нас с.-г. гурток, Ажгірэй уважліва слухаў лекцыі і атрыманыя веды стараўся перанесьці ў сваю гаспадарку. Кніга для Ажгірэя—лепшы прыяцель у штодзённай працы.

Пабольш такіх гаспадароў і наша старонка будзе мець большы прыбытак.

Сел. **А. Карнейчык.**

(Сарачынава, Меншчына).

---

**Выданьне Наркамзема.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч.* *А. Смоліч.* *Сьц. Тупяневіч.*

Менск, 1-ая Дзярж. друкарня Заказ № 3617—6200 Галоўлітбел № 19904.